№ 7—9 Сьнежань 1927 г.



# БЮЛЕТЭНЬ

## ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ЧЫРВОНАГА КРЫЖУ

## SOCIÉTÉ DE LA CROIX ROUGE DE LA RUTHENIE-BLANCHE BULLETIN DE LA COMITÉ CENTRAL

**Няхай жыве 10 год Кастрычніка!**



МЕНСК MINSK

# ЗЬМЕСТ

Стар.



## Па акругах



## Хроніка



## Афіцыяльны аддзел



## У суседніх таварыствах



## Фізкультура

## Заўважаныя памылкі.

| Стар. | Радок | Надрукавана | Трэба чытаць |
|---|---|---|---|
| 5 | 14 зьверху | Крыжуяўляў | Крыж уяўляў |
| 6 | 5 зьнізу | міжнародны | Расійскі |
| 38 | 14 зьверху | Полоцкому | Голоцкому |

БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА ЧЫРВОНАГА КРЫЖУ

Société de la Croix Rouge de la Ruthénie Blanche
Bulletin № 7--9, XII—1927 2-ème année

1917 1927

# БЮЛЕТЭНЬ



№ 7—9

СЬНЕЖАНЬ--1927 г.
ГОД ВЫДАНЬНЯ ДРУГІ

ВЫДАНЬНЕ ЦК БЕЛАРУСКАГА Т-ва ЧЫРВОНАГА КРЫЖУ
МЕНСК 1927



| А. ЕНУКІДЗЭ | A. ENOUKIDZE |
|---|---|
| Старшыня Выканаўчага Камітэту Саюзу Чырвоных Крыжоў Паўмесяцаў | Prèsident du Comitè Exècutif de l'Alliance des Croix-Rouges et Croissants-Rouges de l'U. d. R.S.S. |

# Чырвоны Крыж і Кастрычнікавая рэвалюцыя



| М. БАРСУКОЎ<br>Старшыня ЦК Беларускага Т-ва Чырв. Крыжа | M. BARSOUKOFF<br>Le Président du Comité Central de la Croix Rouge Blanche Ruthènienne |
|---|---|

Чырвоны Крыж уяўляе сабой найбольш старую грамадзкую арганізацыю міжнароднага характару, якая атрымала сваё практычнае афармленьне яшчэ ў сярэдзіне мінулага стагодзьдзя. Праўда, грамадзкае значэньне Чырвонага Крыжу ў тым разуменьні, якое мы ўкладаем у зьмест гэтага слова цяпер, было тады далёка нездавальняючае. Чырвоны Крыжуяўляў сабой тыповую буржуазную філянтрапічную арганізацыю, якая была вельмі ўдалым інструмантам для ўсялякіх дыплёматычных і палітычных камбінацый.

Бюджэт Чырвонага Крыжу атрымліваў тады шырокую дапамогу ад дзяржавы і багатыя афяраваньні ад сваіх або замежных капіталістых. Натуральна, што гэткае фінансавае і палітычнае становішча вымагала, каб на чале кіраўніцтва Чырвонага Крыжу былі людзі адпаведнага сацыяльнага стану. Мы бачым, як часта ў мінулым, дый цяпер яшчэ ў буржуазных краінах старшынямі Цэнтральных Камітэтаў зьяўляюцца або асобы царскага роду, або прадстаўнікі найбольш буйных буржуазных палітычных групаваньняў.

Чырвоны Крыж быў паслухмянай прыладай у руках буржуазных дыплёматаў і быў вельмі добрым сродкам, пры дапамозе якога можна было рухаць таемныя спранжыны дзеля спрыяйнага вырашэньня спрэчных дыплёматычных пытаньняў. Характарна, што ідэя Чырвонага Крыжу нарадзілася ў эпоху росквіту францускага імпэрыялізму, калі лёсам Эўропы хацеў кіраваць Напалеён III, які думаў пад сьцягам банапартыцкай Францыі стварыць з Эўропы адзіны буржуазны саюз. Характарна таксама, што месцам, дзе рабілі спробу стварыць міжнароднае аб'яднаньне Чырвонага Крыжу, зьявілася маленькая Швайцарыя—краіна, якая, дзеля слабасьці сваіх уласных фінансавых сродкаў, заўсёды была згодна зрабіцца аб'ектам дыплёматычнага ўплыву кожнай больш моцнае буржуазнае дзяржавы.

Афіцыяльная задача, якая была пастаўлена тады перад Чырвоным Крыжам, організацыя мэдычнай дапамогі ранным і хворым у часе вайны. Але, паўтараю, гэтая задача адыходзіла на задні плян у параўнаньні з тымі магчымасьцямі, якія зарысоўваліся перад Чырвоным Крыжам у мірны час. Тут, у часе мірнае перадышкі, пачыналася спаборніцтва паасобных капіталістычных краін у сэнсе забясьпечаньня свайго эканамічнага ўплыву. Мы асабліва добра гэта бачым зараз на прыкладзе Францыі, дзе амэрыканскі капітал праз Лігу Чырвоных Крыжоў імкнецца з усіх сіл пашырыць свой уплыў шляхам стварэньня гэткіх лекава-санітарных установў, праз якія можна атрымаць найбольшы практычны эфэкт. Тут адначасова з дэманстрацыяй сваіх фінансавых магчымасьцяй адбываецца і ўзмоцненая рэкляма прадуктаў сваёй вытворчасьці, вырабаў сваёй фабрычнай прамысловасьці. Калі, па сутнасьці кажучы, паразважыць больш уважліва над тым, што рабіў у вайсковы час Чырвоны Крыж, дык мы ўбачым, што праца была ня толькі мэдычная, але ў значнай меры мела і палітычны характар. Азнака Чырвонага Крыжу вельмі часта была добрым прыкрыцьцём для пашырэньня сярод жаўнераў культу вайны, узгадоўваньня сярод іх нянавісьці процi сваіх выабражаных ворагаў і самае шырокае агітацыі нацыянальнага шавінізму. Апрача таго, вельмі часта пад сьцягам Чырвонага Крыжу для выкананьня стратэгічных задач перавазілі і баявыя прыпасы на тыя вучасткі фронту, куды не рызыкавалі пранікаць іншым чынам. Асаблівай вакханаліі і нястрыманага растрачаньня сваіх сродкаў дасягнуў міжнародны Чырвоны Крыж у часе вайны 1914—1918 г.

Расійскі Чырвоны Крыж, апеканы, з аднаго боку—царскай фаміліяй, а з другога—багатымі расійскімі купцамі, зьяўляўся ў літаральным сэнсе гэтага слова прытулкам для збанкрута-

ваўшых дваран і жанчын з двухсмыснай рэпутацыяй. Тыя, хто крычаў аб неабходнасьці вясьці вайну да пераможнага канца і ў той самы час баяўся праліваць сваю „каштоўную кроў“ на пярэдніх пазыцыях—хаваліся пад цёплым скрыдлышкам Чырвонага Крыжу. Тут, апрача добрай пасады, з задавальняючай пэнсыяй,—была магчымасьць схавацца ад варожае кулі і бясьпечна прасядзець да „перамогі“.

Такі, прыкладна, малюнак уяўляў сабой Расійскі Чырвоны Крыж, калі ў 1917 годзе ленінградзкі пролетарыят падняў паўстаньне супроць часовага ўраду. Зразумела, ранейшым кіраўнікам Чырвонага Крыжу не спадабалася ўся гэтая рабочая ўлада, якая раптам, для іх зусім нечакана, зрабілася гаспадаром краіны. Зусім зразумела, што стан Галоўнага Кіраўніцтва Расійскага Чырвонага Крыжу ў адносінах да Ваенна-Рэвалюцыйнага Камітэту Ленінградзкага Савету быў вельмі варожы. Ухваляліся пратэсты, друкаваліся рэзалюцыі аб падтрыманьні Часовага Ураду, а ў адносінах да Ваенна-Рэвалюцыйнага Камітэту ліўся нястрыманы струмень злосьці і ненавісьці. Чырвоны Крыж ужо скінуў маску сваёй апалітычнасьці і адкрыта стаў на бок клясавых ворагаў рабочых і сялян. Словы аб гуманнасьці, міласьці да чалавека, усе тыя прыгожыя ісьціны, якія так гладка і пераконваюча выказваліся на ўрачыстых банкетах,—забыліся. Гуманнасьць пачала ўжывацца толькі ў стасунку да аднэй са змагаючыхся старон, а другой у гэтым было адмоўлена.

Між тым, у той час мэдычная дапамога Чырвонага Крыжу была вельмі патрэбна, бо ленінградзкім рабочым прыходзілася з бойкай адбіваць удары Красноўскіх казакоў на чырвоную сталіцу. Унутры самога Ленінграду яшчэ таксама ня спыніліся бойкі і прыходзілася змагацца супроць падняўшых зброю юнкераў. Становішча мэдычнай дапамогі Чырвонай Гвардыі было вельмі дрэннае. Эвакуацыя хворых і першая дапамога мелі самы бязладны выгляд. Усё гэта яшчэ ўскладнялася і тым, што ленінградзкія больніцы неахвотна прыймалі хворых чырвонаармейцаў і нярэдка прыходзілася палохаць узброенай сілай, каб дасягнуць рэальных вынікаў. Галоўнае Кіраўніцтва Расійскага Чырвонага Крыжу зусім адмовілася чым-небудзь нам дапамагчы і замест гэтага адкрыта стала на бок нашых ворагаў, даўшы свае сродкі і паслаўшы сваіх дактароў ў цэнтральны пункт хуткай дапамогі. Гэты пункт арганізаваўся з групы працоўнікаў Земскага Саюзу, Саюзу Гарадоў, Чырвонага Крыжу і іншых „грамадзкіх“ арганізацый. Хуткая дапамога раней існавала пры Камітэце Грамадзкай Забясьпекі, абыяк створанай нелегальнай буржуазнай установе з астач былога Часовага Ураду. Асноўнай задачай гэтага пункту пер-

шае дапамогі—была дапамога юнкерам і іншым асобам, якія пацярпелі ад „бальшавіцкага тэрору“.

Мне ўспамінаецца тая першая гэраічная ячэйка пралетарскага Чырвонага Крыжу, якая ўзьнікла ў Выбарскім раёне і на чале якой былі Коранеў і Фартунатаў. Гэтай ячэйцы прышлося на сваіх плячох вынясьці ўвесь цяжар першых баявых дзён і быць пачаткам ня толькі Савецкага Чырвонага Крыжу, але, больш таго,—пачаткам савецкае аховы здароўя. Пралетарскі Чырвоны Крыж пільна арганізаваў у Смольным першы чырвоны шпіталь, як мы тады яго звалі, са сталымі ложкамі і амбуляторыяй. Вялікую працу правялі тады беспартыйны доктар Балонаў і мэдычная сястра Сакалова, якія зусім дарэмна дзень і ноч лячылі раненых і хворых чырвонаармейцаў.

Другой вялікай заслугай пралетарскага Чырвонага Крыжу была дастаўка на баявую лінію мэдыкамэнтаў і перавязачных сродкаў. Ён недзе захапіў аптэчны склад, адкуль досыць доўгі час мы атрымлівалі небходныя мэдычныя прыналежнасьці і прэпараты. Гэткім самым захопным шляхам пралетарскі Чырвоны Крыж набыў санітарную аўтакалёну і, як рэвалюцыйны трафей, перадаў нам—мэдычна-санітарнаму аддзелу Вайскова-Рэвалюцыйнага Камітэту, які тады быў на чале ўсёй савецкай мэдычнай арганізацыі. Аўтамабілі зьявіліся якраз начасе, бо толькі з іх дапамогай мы здолелі наладзіць эвакуацыю хворых раненых з фронту.

Тут небходна зазначыць на тое дзіўнае самаафяраваньне работніц ад варштату—санітарак, якія на пярэдніх лініях пад кулямі давалі першую дапамогу нашым барацьбітам. Усё гэта рабілася без усякай узнагароды, падчас і на пусты жалудак,—адзіна толькі дзеля гарачага клясавага жаданьня зьменшыць мукі сваіх братоў-пролетарыяў, аб каторых, апрача іх, у тую хвіліну ніхто ня мог паклапаціцца

У пачатку сьнежня 1917 году з намі ўпершыню пачаў перагаворы ад імя старога Чырвонага Крыжу т. Ленскі, цяпер гандлёвы прадстаўнік СССР у Чэха-Славакіі, і прапанаваў сваю дапамогу дзеля рэарганізацыі гэтай установы. Перагаворы хутка абарваліся, не памятую толькі паводле якіх прычын. Думаю, што нашу ўвагу цалкам захапіла ў той час праца па стварэньні першых ячэек савецкай мэдыцыны пры паасобных Камісарыятах. Тады адбываўся марудны працэс разьвіцьця ідэі савецкай аховы здароўя, якая ператваралася ў адну дзяржаўную ўстанову. Навокал з'арганізаванага намі Савету Доктарскіх Калегій прыходзілася гуртаваць пралетарскую грамадзкую думку, групаваць савецкіх дактароў, падрыхтоўваць ядро пралетарскага саюзу мэдычных працаўнікоў.

Праца ўскладнялася яшчэ і тым, што саботаж усюдых быў вельмі вялікі і прыходзілася вельмі абмежаванымі сіламі будаваць вялікую рэч.

Толькі ў канцы студзеня, ці ў пачатку лютага 1918 году, дакладна не памятую, мы рашылі ўзяцца за Чырвоны Крыж, Земскі Саюз і Саюз Гарадоў. Дэкрэтам Саўнаркому быў створаны Камітэт па рэарганізацыі Расійскага Т-ва Чырвонага Крыжу і першым старшынёю прызначан *А. Н. Вінакураў.* Зразу пачалася вялікая арганізацыйная праца. Трэба было ў корань пераглядзець усю арганізацыйную структуру Таварыства і даць новы пралетарскі напрамак усёй яго дзейнасьці. Чырвоны Крыж тады вырас да агромнага памеру.

Гэта была арганізацыя паралельная Ваенна-Санітарнаму Ведамству. У яе кампэтэнцыі былі ня толькі шпіталі, пера-вязачныя атрады, аптэчныя склады і нязьлічоная колькасьць мэдычных працоўнікаў, але таксама яна мела ў сваім распа-раджэньні санітарныя паязды і нават параходы. Эвакуацыйны апарат Галоўнага Кіраўніцтва Чырвонага Крыжу быў ня менш, як у Гэнэральным Штабе, бо ў той час эвакуацыя хворых і ранных, галоўным чынам, праходзіла праз гэтыя дзьве арганізацыі. Пасьля нам удалося ўсю эвакуацыю перадаць у распараджэньне Галоўнага Ваенна-Санітарнага Кіраўніцтва.

Цікава таксама, што большая частка ўсіх заказаў на мэдыкамэнты і лекавае абсталяваньне прыходзілася на заграніцу і ў прыватнасьці на Амэрыку.

Пралетарская рэвалюцыя глыбока ўскародзіла трупехлую, гнілую глебу Чырвонага Крыжу. Праўда, патрабавалася яшчэ шмат год, пакуль Чырвоны Крыж аформіўся і выразна акрэсьліў свае задачы, але ўсё асноўнае, што ён зараз мае, ужо адчувалася і азначалася ў першыя дні пралетарскае рэвалюцыі. Голад, грамадзянская вайна—усё гэта надала свой неўнікнёны адбітак дзейнасьці Чырвонага Крыжу, і не давала яму магчымасьці больш паглыбіць і зрабіць больш выразнымі мэтады свае працы.

Ня трэба забывацца, што Чырвоны Крыж у грамадзянскую вайну зрабіў вялікую мэдычную дапамогу на фронце. Нават першая ячэйка Кіраўніцтва Санітарнае часткі ўсходняга фронту была вылучана са складу Галоўнага Камітэту па рэорганізацыі Расійскага Т-ва Чырвонага Крыжу. Ня менш значную частку сродкаў было страчана на дапамогу галадаючым. Чырвоны Крыж правеў вялікую працу па мабілізацыі грамадзкай думкі навокал гэтага пытаньня. Усьлед за арганізацыяй Расійскага Т-ва Чырвонага Крыжу пачалі ўзьнікаць нацыянальныя Чырвона-Крыжныя аб'яднаньні, якія ў далейшым склалі Саюз Чырвоных Крыжоў і Чырвоных Паўмеся-

цаў. Толькі ў умовах савецкай сапраўднасьці стала магчыма даць роўнапраўнасьць і другой нацыянальнай эмблеме—Чырвонаму Паўмесяцу і тым самым даць магчымасьць прыязнага існаваньня апошняга разам з Чырвоным Крыжам. Нацыянальныя Чырвоныя Крыжы атрымалі магчымасьць на сваёй роднай мове і сваімі ўласнымі сіламі будаваць сваю дзейнасьць так, каб яна адпавядала варункам працы і быту тых народаў, сярод якіх гэтая дзейнасьць праходзіць. Чырвоны Крыж перастаў быць асяродкам толькі якойсьці чыноўнай вярхушкі, якімсьці прыдаткам дзяржаўнай улады. Ён здолеў ператварыцца ў шырокую грамадзкую арганізацыю, якая пры дапамозе актыву рабочых і сялян стала на варце савецкай улады, на варце дыктатуры працоўнае клясы. Пралетарская рэвалюцыя выразна і востра паставіла перад Чырвоным Крыжам наступныя чарговыя задачы:

1) Не на словах, а на справе быць арганізацыяй протэсту проці буржуазнай імпэрыялістычнай вайны, якая ўсьцяж падрыхтоўваецца. Чырвоны Крыж павінен растлумачваць працоўным усяго сьвету тыя цяжкія вынікі, якія нясе за сабой для міжнароднага пралетарыяту ваенная інтэрвэнцыя супроць Савецкага Саюзу. У гэтым галоўнейшае яго міжнароднае значэньне.

2) Чырвоны Крыж мусіць памятаць, што ў выпадку вайны ён павінен зрабіцца цэнтрам савецкай грамадзкасьці па абароне тылу. Дзеля гэтага неабходна больш увагі аддаваць вайскова-санітарнай падрыхтоўцы працоўных. Але разам з тым ня трэба забывацца, што ў мірны час Чырвоны Крыж павінен быць арганізацыяй, якая дапамагае савецкай ахове здароўя, выхоўвае ідэі прафілактыкі сярод працоўных. Барацьба за здаровы быт, за добрыя ўмовы працы—складаюць усю сутнасьць Чырвонага Крыжу, як выдатнай установы рабочых і сялян у справе будаўніцтва санітарнае культуры. Чырвоны Крыж мусіць зрабіцца аднэй са школ, дзе працоўныя навучаюцца быць карыснымі грамадзянамі Савецкага Саюзу.

Вось у агульных рысах, што сёньня стаіць перад нашай арганізацыяй. Шмат зроблена, але шмат яшчэ трэба зрабіць.

Клясавае адзінства на карысьць працоўных усяго сьвету вось што зьяўляецца мэтай Чырвонага Крыжу на бліжэйшы гістарычны пэрыёд яго дзейнасьці.

*М. Барсукоў.*

---

## Дзе міжнародны цэнтр Чырвоных Крыжоў?

У сучасны момант міжнародная організацыя Чырвонага Крыжу перажывае працяглы і грунтоўны крызіс. Як ведама, старым цэнтрам усіх Чырвоных Крыжоў сьвету да апошняга часу зьяўляўся *Міжнародны Камітэт Чырвонага Крыжу ў Жэнэве*, які заснаваўся на аснове Жэнэўскай конвэнцыі 1864 г. аб варунках дапамогі хворым і раненым пад час вайны. Гэтая конвэнцыя затым узмацоўвалася і пашыралася чарговымі конвэнцыямі—Пецярбурскай (1868 г.), Гаагскай (1899 г.), Гаагскай (1907 г.) і Лёнданскай (1909 г.), калі былі апрацаваны і прыняты 44 дзяржавамі сьвету варункі і формы абароны людзкасьці пад час сухапутнай і морскай вайны.

Да самай імпэрыялістычнай вайны Жэнэва і яе Міжнародны Камітэт Чырвонага Крыжу лічыўся бясспрэчным цэнтрам усёй чырвонакрыжнай дзейнасьці, пры чым нэўтральнасьць яго для ўсіх дзяржаў была падчыркнута тым, што ён знаходзіўся на нэўтральнай швайцарскай тэрыторыі і складаўся з „нэўтральных“ швайцарскіх грамадзян.

Імпэрыялістычная вайна, якая парушыла ў асновах стары буржуазны мір, парушыла і прынцыпы ўсёй чырвона-крыжнай палітыкі; яна шмат у чым агаліла адноснасьць славутых конвэнцый[1]) і ў выніку ўсяго,—паставіла пад знак запытаньня самае існаваньне Міжнароднага Камітэту ў Жэнэве, як цэнтру Чырвоных Крыжоў.

Сталася ўсё гэта дзякуючы тэй самай прычыне, якая кінула народы на імпэрыялістычную бойню і якая ўнесла разладзьдзе ў хвалёную буржуазную „нэўтральнасьць“,—сталася дзякуючы барацьбе капіталаў. Амэрыка, найбольш выйграўшая ад імпэрыялістычнай вайны і захапіўшая ў свае рукі кантроль над эўропэйскімі фінансамі, парашыла і ў чырвона-

[1]) Парушэньне нэўтралітэту Бэльгіі, шырокае ўжываньне „забароненых“ атрутных газаў, ужываньне разрыўных куль, бомбардыроўка мірных партоў і гарадоў і г. д.

крыжнай справе заняць першае, дамінуючае палажэньне. Усемагутны амэрыканскі капітал ня мог цярпець, каб у Эўропе была хоць якая небудзь больш важная ўстанова, якая не знаходзілася-б пад яго непасрэдным загадам. Міжнародны Чырвоны Крыж у Швайцарыі мусіў разьдзяліць агульны лёс.

Справа ў тым, што Амэрыка ўступіла ў імпэрыялістычную вайну вельмі позна,—толькі ў красавіку 1917 г. У лістападзе 1918 года вайна была скончана, а між тым Паўночна-Амэрыканскія Аб'яднаныя Штаты толькі што здолелі выгрузіць у францускім парту на Серадземным моры—Бордо вялізарнейшыя запасы сваіх санітарных матар'ялаў і грамадны корпус свайго мэдычнага пэрсаналу. Што было рабіць з гэтым багацьцем?—ня весьці-ж было яго назад, у Амэрыку, дзе і без таго, дзякуючы спыненьню вайны, адчуваўся даткліві ўдар па ўсёй вайсковай прамысловасьці.

Выхад быў знойдзены ў тым, што Амэрыканскі Чырвоны Крыж, якому належылі ўсё гэтыя санітарна-мэдычныя багацьці, накіраваў у 17 эўропэйскіх дзяржаў, свае місіі, перадаўшы ў іх распараджэньне адпаведныя запасы сан-матар'ялу, харчоў і грошаў. Праз гэтыя сямнаццаць місій Амэрыканскі Чырвоны Крыж зрабіў вялікую прапаганду сваёй сілы і свайго палітычнага значэньня і набыў першарадны аўторытэт сярод зьбяднеўшых урадаў Эўропы. Міжнародны Камітэт у Жэнэве нават і марыць ня мог аб гэтакім размаху,—і трымаўся ня столькі сваёй фактычнай сілай, колькі гістарычнай традыцыяй.

Пасьля гэтага Амэрыка ня доўга чакала афармленьня сваёй ролі ў чырвона-крыжнай справе. 6 сакавіка 1919 г. яна зьдзейсьніла сваю думку і „запрасіўшы" да ўдзелу дзяржавы Антанты—Англію, Францыю, Італію і Японію,—утварыла новы цэнтр міжнароднага чырвона-крыжнага руху—так зв. „*Лігу Таварыстваў Чырвоных Крыжоў*". Формальна гэтая Ліга была абапёрта на § 25 Лігі Нацый, які забавязваў эўропэйскія дзяржавы „дапамагаць організацыі Чырвоных Крыжоў у мэтах палепшаньня здароўя, профілактыкі хваробаў, паменшаньня людзкіх цярпеньняў ня толькі пад час вайны, але пад час спакою". У гэткі даўсьціпны спосаб выкарыстала Амэрыка тую самую Лігу Нацый, якую яна сама выдумала, але ў якую сама не ўвайшла.

З гэтага моманту пачалася глухая, але ўпартая барацьба паміж старым Міжнародным Камітэтам Чырвонага Крыжу і Лігай Таварыстваў Чырвонага Крыжу. Першы па старому сядзеў у Жэнэве, а другая хутка забаснавалася ў Парыжу. Дзякуючы свайму багацьцю і сваім неабмежаваным матар'яльным магчымасьцям, крыніцай якіх зьявіўся Амэрыканскі Чырвоны

Крыж, Ліга праз некалькі год сабрала навокал сябе 54 нацыянальных таварыстваў, так што ў 1926 годзе ў яе склад не уваходзілі толькі Чырвоныя Крыжы і паўмесяцы ў СССР, турэцкі Паўмесяц і пэрсіцкі Леў і Сонца. Бюджэт Лігі ў гэтым годзе быў 383.572 дал., зложаных усімі яе членамі, пры чым „узнос“ Амэрыканскага Чырвонага Крыжу быў роўны ня больш ня меньш, як 356.250 дал. З гэтага відаць, якую параўнаўчую вагу мае ён у Лізе. Ня трэба апрача таго забывацца, што і асноўны капітал Лігі ў суме 1.000.000 дал. быў зложаны пры яе заснаваньні Амэрыканскім Чырвоным Крыжам.

Замест нэўтральнасьці Жэнэўскага Камітэту, якая, як паказана, абапіралася на тым, што яго складаюць выключна швайцарскія грамадзяне і што Швайцарыя зьяўляецца нэўтральнай дзяржавай,—Ліга Чырвоных Крыжоў запрапанавала ідэю фэдэратыўнай будовы міжнароднага цэнтру,—г. зн., каб выканаўчы камітэт Лігі, як стала працуючая ўстанова (Савет Правіцеляў), абіраўся роўнымі галасамі ўсіх яе членаў. Кожнаму зразумела,—якая гэта ёсьць „роўнасьць“, калі прыпомніць, якім капіталам жыве Ліга і які ўплыў мае там Амэрыканскі Чырвоны Крыж.

Для ўзмацненьня свайго сусьветнага значэньня Ліга Таварыстваў Чырвоных Крыжоў склікала ў апошнія гады цэлыны шэраг міжнародных конфэрэнцый,—у Вене (1921 г.), у Варшаве (1923 г.), дзьве пан-амэрыканскія конфэрэнцыі—у Буэнос-Айрэсе і Вашынгтоне, вядомую вяліка-акіянскую конфэрэнцыю ў Токіё і, урэшце, спэцыяльную конфэрэнцыю санітарнае дапамогі на моры—у Осло (Норвэгія, радзіма Нансэна). Папулярнасьць Лігі і яе палітычныя магчымасьці дзякуючы гэтым конфэрэнцыям, скліканым на грошы Амэрыканскага Чырвонага Крыжу, узрасьлі яшчэ больш.

Для эўропэйскай буржуазнай палітыкі стварыўшыйся дуалізм быў бяльмом у вачу. Да таго, ня кожнаму са старых Чырвона-Крыжных Таварыстваў было прыемна быць у гэткай грунтоўнай залежнасьці ад Амэрыкі. Як ніяк, але да Жэнэўскага Камітэту Эўропа больш прызвычаілася і лягчэй магла ўплываць на яго міжнародную тактыку. Для паратунку свайго прэсьціжу рабіў усе магчымыя захады і сам Міжнародны Камітэт. Справа скончылася тым, што ў лістападзе мінулага году ў Бэрне, на швайцарскай тэрыторыі, была сабрана спэцыяльная конфэрэнцыя, прад якой было заданьне знайсьці які небудзь modus wiwendi паміж абодвымі цэнтрамі або, як сьмяяўся францускі дэлегат, „сшыць адну шапку для двох галоў“. Галоўнае кіраўніцтва ў гэтай опэрацыі належыла прынцу Карлу швэцкаму,—прэзыдэнту швэцкага Чырвонага Крыжу.

Як і трэба было спадзявацца, бэрнская конфэрэнцыя не ліквідавала Лігі Чырвоных Крыжоў і не знайшла аканчальнага замірэньня ў барацьбе яе з Жэнэвай. Праўда, шлях да ліквідацыі конфлікту быў як-бы знойдзены, але больш за кошт Міжнароднага Камітэту. „Шапкай" для абовых організацый,—гэта знача запраўдным міжнарожным цэнтрам чырвонакрыжнай дзейнасьці, павінен быў зьявіцца асобны „Сталы Савет", які павінен быў-бы стаяць вышэй, як за Міжнародны Камітэт, так і за Лігу Чырвоных Крыжоў і які павінен быць органам спроэктаванага Міжнароднага Саюза. Разам з тым была знойдзена формула і аб падзеле функцый паміж імі: Ліга Таварыстваў Чырв. Крыжоў была прызнана як галоўная міжнародная ўстанова Чырвоных Крыжоў *у часе міру*,—і Міжнародны Камітэт— *у часе вайны*, (з падгатоўкай пад часу спакою).

У маю бягучага году была ў Парыжу склікана чарговая сэсія Савету Правіцеляў Лігі, але і яна не ліквідавала конфлікту. На гэты раз у спробе прымірэньня абодвых цэнтраў удзельнічала 45 нацыянальных таварыстваў, але большасьць, як звычайна, належыла прыхільнікам Лігі і таму ня дзіва, што конфэрэнцыя большасьцю галасоў прыняла амэрыканскі проэкт рэзалюцыі.

Галоўныя пункты майскай рэзалюцыі прадугледжваюць утварэньне *Аб'яднанай Міжнароднай Конфэрэнцыі Чырвоных Крыжоў*, якая Конфэрэнцыя будзе мець поўныя правы адносна важнейшых пытаньняў чырвона-крыжнай справы, але якая ня меціме права прыймаць якія-б то ні было рашэньні адносна статутаў Міжнароднага Камітэту і Лігі; Міжнародная Конфэрэнцыя вызначае спэцыяльны *Савет* з 9 членаў, які будзе засядаць у Жэнэве, будзе весьці чарговую працу, пераважна па тым пытаньням, якія датычуць конфлікта, будзе падгатаўляць скліканьне і склікаць Міжнародныя Конфэрэнцыі і г. д. Што-ж датыча Міжнароднага Камітэту Чырвонага Крыжу і Лігі Чырвоных Крыжоў,—дык яны *захоўваюць сваю поўную незалежнасьць*, сваё аўтаномнае ўпраўленьне, свае і статуты і ўнутраныя рэгляманты, за выключэньнем тых палажэньняў, якія нязгодны з прынцыпам існаваньня Міжнародных Конфэрэнцый.

Гэткім чынам, як бачым,—галоўнае заданьне спроб апошніх гадоў, выйсьці з гонарам з утварыўшайся падвойнасьці, так і засталося вісець у паветры. Абодвы цэнтры міжнародных Чырвоных Крыжоў існуюць надалей і па ўсіх даных ня думаюць уступаць адзін аднаму верхавенства. Наадварот, —конфлікт зацягваецца ўсё далей і глыбей.

Нацыянальныя Чырвоныя Крыжы і Паўмесяцы СССР,

на чале са сваім Выканаўчым Камітэтам, ня прыймалі ўдзелу па ўсёй паказанай спрэчцы і мелі на тое рацыю. Моцнаму Саюзу Савецкіх Чырвоных Крыжоў і Паўмесяцаў, з іх шмат мільённым бюджэтам, з іх колёсальнай тэрыторыяй, абымаючай адну шостую ўсёй зямной кулі, з аграмаднымі задачамі па абслугоўваньні патрэб рабоча-сялянскіх мас,—ня цікава склока паміж амэрыканскім і эўропэйскім капіталам за кіраваньне чырвона-крыжным аб'яднаньнем. У варунках міру ён мае сваю акрэсьленую програму дзейнасьці прадыктаваную рабочай клясай савецкае дзяржавы. А на выпадак вайны,—ён мае ўзаемныя забавязаньні, якія выцякаюць з факта падпісаньня Савецкім Саюзам жэнэўскай конвэнцыі 1864 г. і далейшых дапаўненьняў. У варунках процілежнасьці дзьвёх сусьветных сыстэм,—савецкай і буржуазнай, пролетарскай і капіталістычнай,—нацыянальным Чырвоным Крыжам і Паўмесяцам больш нічога ня трэба.

Адну толькі характэрную абставіну трэба пры гэтым падкрэсьліць,—а ласьне тую, што ні Міжнародны Камітэт, ні Ліга Чырвоных Крыжоў да сяго часу яшчэ не адважыліся прызнаць нацыянальныя Чырвоныя Крыжы і Паўмесяцы СССР, і ў тым ліку Беларускае Т-ва Чырв. Крыжу, як самастойныя чырвона-крыжныя організацыі. Ня гледзячы, што гэтае прызнаньне зусім натуральна разумеецца іх статутам і што на гэтым прызнаньні не адзін раз настойваў наш Выканаўчы Камітэт,—справа прызнаньня ўсё яшчэ „абмяркоўваецца". Гэта найлепш характарызуе тую „роўнасьць", якая прынцыпова прынята абодвымі міжнароднымі аб'яднаньнямі ў стасунку да паасобных нацыянальных таварыстваў і гэта тым больш павінна пераконваць нас у патрэбе захоўваць індэфэрэнтызм у барацьбе паміж Міжнародным Камітэтам і Лігай.

*Аляксандр Цьвікевіч.*

# Бюджэты Чырвоных Крыжоў і Паўмесяцаў СССР да 10-й гадавіны Кастрычніка

Першы год, з якога Савецкія Чырвоныя Крыжы і Паўмесяцы прыступілі да грамадзкай дзейнасьці, быў 1923 год. Да гэтага часу на працягу амаль 6 год Чырвоныя Крыжы і Паўмесяцы рабілі вялікую справу па дапамозе раненым і пацярпеўшым у грамадзянскай вайне, альбо па дапамозе ўцекачом і галадаючым з Паволжа. Дапамога гэта была самая рознастайная: лекавая, харчовая, вопраткай і сродкамі на праезд. Зразумела, што гэты пэрыяд прайшоў пад вельмі малым ухілам грамадзкай дзейнасьці сярод насельніцтва.

Галоўныя сродкі для працы давалі ў той час дзяржаўныя рэгаліі СССР, а ў момант найбольшай бяды, калі пашырыўся голад на Волзе—і замежныя Чырвоныя Крыжы прыйшлі з дапамогай грашыма і прыпасамі. Толькі пасьля перамогі гэтых галоўных няўзгод Чырвоныя Крыжы і Паўмесяцы пачалі залучаць насельніцтва ў шэрагі сваіх сяброў і разгортваць працу ў спакойных, нармальных умовах. Гэты першы крок і быў зроблены ў 1923-24 годзе. У зьвязку з гэтым мы маем вельмі цікавыя лічбы па сяброўскім узносам, дзяржаўным рэгаліям і росту агульных бюджэтаў.

Як відаць з табл. № 1, ад 1923-24 г. па 1926-1927 год праца па ўцягненьню працоўных у шэрагі сяброў Чырвонага Крыжу і Паўмесяцу вельмі добра разгарнулася. Калі прыняць за 100% лічбы сяброўскіх узносаў 1923-24 г. (21.011 р. 94 к.), дык 1926-27 г. дае 1590% павялічэньня (334.168 р. 96 к.). Гэта значыць, што колькасьць сяброў Т-ваў Чырвонага Крыжу і Паўмесяцу павялічылася ў гэты пэрыяд прыблізна ў 16 раз. Паказаная агульная вялікая сума—трыста трыццаць тысяч рублёў—паступіла ў працягу аднаго 1926-27 году ад працоўных вельмі дробненькімі сумамі—па 1—4 кап. у месяц ад сябра. Гэта сьведчыць аб тым, што Чырвоны Крыж і Чырвоны Паўмесяц зрабіўся цяпер масавай грамадзкай організацыяй. І калі мы маем павялічэньне яе за першыя 4 гады Кастрычнікавай Рэволюцыі ў 16 раз, дык з пэўнасьцю можна сказаць, што да другога 10-годзьдзя Кастрычніка па ўсяму саюзу

лік сяброў Чырвонага Крыжу і Паўмесяцу будзе налічвацца многімі мільёнамі.

Лічбы табл. № 2 высьвятляюць другі бок працы Чырвоных Крыжоў і Паўмесяцаў.

Калі мы бачылі ў першым выпадку грамадзкую актыўнасьць, дзе кожны жыхар, уступіўшы ў сябры Т-ва, даваў свой працоўны грош на ўзмацненьне яго актыўнай працы і сам далучаўся да яе, дык тут мова ідзе аб удзеле ў працы Чырвоных Крыжоў і Паўмесяцаў усяе дзяржавы працоўных, якая аддае ім адлічэньні ад пэўных рэгалій. Лічбы табл. №2 складаюцца: з адлічэньняў з цаны тэатральных білетаў, чыгуначных білетаў, а таксама кіно-тэатраў і замежных пашпартоў. Гэтыя лічбы з 1 861 756 руб. 26 к. у 1923-24 годзе ўзрасьлі ў 1926-27 г да 4.125,835 р. 30 к., альбо на 222%. Такім чынам тут ёсьць павялічэньне ў 2,22 разы, але ня ў 16 разоў, як гэта было па сяброўскіх узносах. Аналізуючы гэтыя лічбы, неабходна зазначыць, што ня гледзячы на абсалютны ўзрост лічб па кожнаму году, у %% адносінах да ўсяго бюджэту яны зьмяншаюцца, пры чым тое Таварыства, якое разгарнула найлепш сваю грамадзкую дзейнасьць і найбольш уцягнула ў свае шэрагі сяброў, тое мае і найменшы % дзярж. рэгалій у адносінах да свайго агульнага бюджэту.

Праца мінулых год пад час грамадзянскай вайны, стыхійных бед і голаду, праходзіла пераважна за сродкі дзяржаўных рэгалій. Сяброўскіх узносаў было вельмі мала і ў тыя часы можна было разглядаць Чырвоныя Крыжы і Паўмесяцы як дзяржаўныя ўстановы.

Сёньня, праз чатыры гады працы сярод рабочых і сялянскіх мас, становішча зусім зьмянілася, і мы маем да дзесятай гадавіны Кастрычніка зусім іншыя лічбы саюзнага бюджэту; ён мае цяпер толькі 47% дзяржаўных рэгалій—гэта знача, што больш як 53% прыпадае на сродкі, атрыманыя арганізацыямі ў выніку іх грамадзкай дзейнасьці. Будучыня абяцае гэтым апошнім сумам галоўную ролю ў бюджэце Таварыстваў, а дзяржаўныя рэгаліі будуць, трэба думаць, адыгрываць усё меншую і меншую ролю Падобны зварот справы на 1927-28 год ёсьць лепшы падарунак Кастрычніку ў дзень яго дзесятай гадавіны ад Чырвоных Крыжоў і Паўмесяцаў СССР.

Пяройдзем да разгляду табліцы № 3. Калі мы раней гаварылі аб удзеле ў бюджэце сяброўскіх складак і дзяржаўных рэгалій, з якіх першыя ўзрастаюць, а другія паступова адыходзяць на другі плян, дык цяпер падлічым, наколькі нагогул выраслі бюджэты Чырвоных Крыжоў і Паўмесяцаў СССР да дзесяцігодзьдзя Кастрычніка.

Табліца № 3 таксама, як першыя дзьве, малюе вынікі за 4 гады. У першым 1923-24 годзе агульная сума бюджэту была раўна 3.957.945 р. 77 к., альбо 100%, з якіх першае месца займае РОКК — 60%, другое УОКК—35,5%. У бюджэце на 1926-27 г. агульная сума дае 8.603.066 р. 69 к., альбо 217% узросту ў стасунку да сумы 1923-24 г., пры чым першае месца цяпер пераходзіць да УОКК—45%, а РОКК займае другое—38.5%. Пры гэтым РОКК дало ўзрост на 40%, а УОКК на 175%.

Усе іншыя Чырвоныя Крыжы і Паўмесяцы даюць яшчэ больш цікавы малюнак свайго разьвіцьця: калі яны мелі ў 1923-24 г. толькі 4,5% агульнага бюджэту з круглай сумай у 180.620 р., дык у дзесяцігодзьдзе Кастрычнікавага сьвята яны займаюць у саюзным бюджэце 16,5%, а агульныя сумы іх бюджэтаў павялічваюцца да 1.411.057 руб. 47 к., што дае ўзрост на 781%.

Раўняючы ўсе паказаныя лічбы, трэба адзначыць, што больш моцнае Расійскае Т-ва Чырвонага Крыжу, менш другіх зацікаўлена ў грамадзкай дзейнасьці і яго бюджэт узрос пакуль што на 40%, пры чым дзяржаўныя рэгаліі і сёньня займаюць 78% сумы яго бюджэту. Зусім інакш стаіць справа ў рэшце Чырвоных Крыжоў і Паўмесяцаў: прыкладам, УОКК мае ўзрост бюджэту на 175%, пры чым дзяржаўныя рэгаліі ў яго бюджэце займаюць толькі 26%, а іншыя Чырвоныя Крыжы і Паўмесяцы (Беларускі, Грузінскі і г. д.) даюць узрост свайго бюджэту на 681%, пры чым дзяржрэгаліі ў іх займаюць у сярэднім 45%. Гэта знача, што Чырвоныя Крыжы і Паўмесяцы малых нацыянальных рэспублік буйна разгарнулі сваю грамадзкую дзейнасьць і ў масавым маштабе прыцягнулі працоўнае насельніцтва да актыўнай працы.

*І. Асятроў.*

---

Табл. № 1

**Сяброўскія ўзносы па даных Выканкому Саюзу Чырв. Крыжоў і Паўмесяцаў**

| Гады | РОКК | % % | УОКК | % % | БОКК | % % | ГОКК | % % | АРОКП | % % | АЗОПК | % % | ТОКП | УЗОКП | Усяго | % % |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 23/24 г. | 13154—35 0,7 | 100 | 7857—59 0,5 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | 21011—94 | 100 |
| 24/25 г. | 20837—67 0,80 | 151 | 56229—64 2,3 | 721 | 88—17 0,1 | 100 | — | - | 1500 1,9 | 100 | 1332—40 1,2 | 100 | | — | 79987—88 | 380 |
| 25/26 г. | 28068—51 0,9 | 135 | 85787—52 2,5 | 153 | 1823—61 11,5 | 2072 | 3276—44 1,3 | — | 1404 1,4 | 94 | 2275—25 2,2 | 175 | — | — | 122635—33 | 153 |
| 26/27 г. | 33450 1,0 | 119 | 253224—21 6,5 | 298 | 11903—50 8 | 654 | 16591—25 3 | 508 | 5000 1,9 | 357 | 5000 3,7 | 217 | 1000 0,7 | 8000 5,3 | 334168—96 | 277 |
| % 26/27 г. к 23/24 г. | 255% | | 3226% | | 13523% | | 508% | | 333% | — | 384% | — | — | — | 1590% | — |

Табліца № 2

## Агульная сума рэгалій па гадох

| Гады | РОКК | %% | УОКК | %% | БОКК | %% | ГОКК | %% |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | Агульны ў усіх закаўкаскіх | |
| 23-24 г. | 1391226—41<br>59 | 100 | 397857-24<br>28 | 100 | 8672—60<br>39 | 100 | — | — |
| 24-25 г. | 1758295—85<br>58 | 127 | 508390—11<br>23 | 128 | 46609-21<br>66 | 539 | вестак няма | — |
| 25-26 г. | 2606525—53<br>72 | 149 | 994721—08<br>34 | 196 | 75435—21<br>62 | 165 | 71014—06<br>30 | 100 |
| 26-27 г. | 2600000<br>78 | 99 | 1032547—90<br>26 | 105 | 82844<br>56 | 110 | 78243—40<br>14 | 110 |
| %% адносіны рэгалій 26-27 г. да рэгалій 23-24 г. | | 187 | — | 260 | — | 925 | — | 110 |

| Гады | АЗОКП | %% | АОКП | %% | УЗКП | %% | ТОКП | %% | Агульна па ўсім крыжам | %% |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Агульны ў усіх закаўкаскіх. | | | | | | | | | |
| 23-24 г. | 64000<br>40 | — | — | — | — | — | — | — | 1861756-25 | 100 |
| 24-25 г. | 45754-82<br>46 | 100 | 6000<br>46 | 100 | — | — | — | — | 2365049-99 | 126 |
| 25-26 г. | 51175—27<br>51 | 111 | 36105<br>30 | 601 | 88623—25 | 100 | 20449-25 | 100 | 3944048—65 | 167 |
| 26-27 г. | 67000<br>48 | 131 | 73000<br>26 | 202 | 140000<br>92 | 158 | 52200<br>34 | 254 | 4125835-30 | 107 |
| %% адносіны рэгалій 26-27 г. да рэгалій 23-24 г. | | 147 | — | 1201 | — | 158 | — | 254 | — | 222 |

Табліца № 3

**Узрост бюджэтаў па гадох**

| Гады | РОКК | %% | УОКК | %% | БОКК | %% | ГОКК | %% |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 23/24 г. | 2367732—94<br>60,0 | 100 | 1409592—83<br>35,5 | 100 | 22040<br>0,5 | 100 | — | — |
| 24/25 г. | 3025408—60<br>55,0 | 124 | 2172890—18<br>39,0 | 154 | 71205 - 61<br>1,5 | 323 | — | — |
| 25/26 г. | 3594525—69<br>50,0 | 118 | 2928809 - 95<br>40 | 135 | 122360—63<br>2,0 | 172 | 238772—07<br>3,5 | 148 |
| 26/27 г. | 3308545—02<br>38,5 | 92 | 3883464—20<br>45,0 | 133 | 147118—20<br>1,75 | 125 | 551664—79<br>6,5 | 231 |
| %% адносіны 26/27 г. к 23/24 г. | | 140 | — | 275 | — | 668 | — | -- |

| Гады | АОКК | %% | АЗОКП | %% | УЗОКП | %% | ТОКП | %% | Агульны | %% |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 23/24 г. | 158580<br>4,0 | — | — | — | — | — | — | — | 3957946—77 | 100 |
| 24/25 г. | 129607<br>2,5 | 100 | 99468—17<br>2,0 | 100 | — | — | — | — | 5498579—56 | 139 |
| 25/26 г. | 120691<br>2,0 | 92 | 99545—66<br>1,25 | 100 | 61500<br>1,0 | 100 | 20449—25 | 100 | 7188654—25 | 132 |
| 26/27 г. | 268796<br>3,0 | 222 | 137000<br>1,75 | 137 | 152327—95<br>1,75 | 25 | 154160—53<br>1,75 | 752 | 8603066—69 | 120 |
| %% адносіны 26/27 г. к 23-24 г. | | 602 | — | — | — | 250 | — | 752 | — | 217 |

# Работа глазного отряда Белорусского Красного Креста в Речицком районе, Мозырского округа

22-го мая по распоряжению Центрального К-та Бел. О-ва Красного Креста я направился в Речицкий Окрздрав с целью получить указания о размерах нуждаемости населения в окулистической помощи и, выбрав район с наибольшей пораженностью трахомой, направиться в последний для временной работы. По прибытии в г. Речицу, я застал Окрздрав в ликвидационном состоянии, вследствие чего появились трудности в смысле получения точных сведений о характере и количестве глазных заболеваний в округе и мне пришлось прибегнуть к просмотрам отчетов районных больниц и Окрздрава за последние два года для выяснения количества трахомных заболеваний в округе.

При осмотре оказалось, что сведений о трахоме совершенно нет, и первое впечатление у меня сложилось в пользу того, что Речицкий округ благополучен в отношении трахоматозной инфекции. В медико-санитарной отчетности на 6 страницах очень подробно требуются сведения об оказании помощи застрахованным, об абортах, штате больниц и т. д., но графы о заболевании трахомой совсем нет, как будто трахома не есть заразное заболевание. Участковые врачи по личной инициативе не интересовались количеством трахоматозных больных, а потому при составлении месячной отчетности они все заболевания глаз относили в одну графу—„Болезни органов зрения". Впоследствии я узнал, что, при составлении отчетных ведомостей, во всех районах не отделяют первичные случаи трахомы от вторичных посещений, почему даже те сведения, которые имеются в некоторых районах, не соответствуют действительности и не могут дать никакого представления о степени распространения трахомы. Тем не менее, несмотря на отсутствие сведений о количестве трахомы в округе, чтобы не терять времени на переезд в другой округ, я решил ехать в Хойникский район, куда мне тоже советовал ехать Зам. зав. Окрздрава.




Окружной Комитет Красного Креста был очень рад приезду окулиста в их округ, ими высказывалось пожелание оставить меня в самой Речице, так как там до сего времени нет окулиста.

В первый день приезда в Хойники я явился к Председателю РИК'а и информировал его о целях и задачах моей командировки. В этот же день РИК известил С. Советы о приезде в район окулиста от Центрального К-та Белорусского О-ва Красного Креста.

## 1. Общественная работа

Прежде чем приступить к работе, мне необходимо было связаться с районной организацией Красного Креста. К сожалению, в это время в районе не было еще никакой организации. Через два дня после моего приезда Уполномоченным Кр. Кр. был

назначен *т. Коломеец*, представитель Райпроф. Бюро, с которым мне пришлось начать организацию Окружного К-та и запись в члены Красного Креста.

Запись производилась в двух местах: 1) Уполномоченным Красного Креста в здании Райпроф. Бюро и 2) мною в здании больницы. Списки вступивших в члены и деньги сдавались мною Уполномоченному *т. Коломейцу*. В самом начале этой работы появились огромнейшие трудности: 1) Не только население местечка и деревни, но и работники РИК'а не имели никакого понятия о задачах и целях Красного Креста, не говоря уже об истории его, и т. д. 2) Крестьяне в первую очередь выдвигают вопрос непосредственной пользы для них от Общества. Огромная часть крестьян слушает доклады о задачах Красного Креста с большим интересом, но когда ставится вопрос о членстве, об организации ячейки Красного Креста в деревне, они начинают молчать, некоторые уходят домой, часть начинает возражать против членства. Для того, чтобы добиться не только проведения в жизнь идей организации сельских ячеек, но понимания цели Красного Креста, требуется многомесячная работа, что под силу только хорошему районному К-ту. Вербовка членов продолжалась в течение нескольких недель. За это время Уполномоченному и мне удалось сделать два небольших доклада. В конце первого месяца количество членов достигло 52-х человек и на первом общем собрании был избран Комитет в составе 3-лиц: Профуполномоченный, Санитарный Врач Района и одна женщина из Женотдела. Начальной работе местного К-та и мне, в том числе, мешало отсутствие инструкции и литературы. В первую неделю я организовал при РИК-е кружок по оказанию скорой помощи в несчастных случаях с военно-санитарным уклоном. Постоянных слушателей в кружке было 18 человек. Одновременно в деревне Рудной, в 7-ми верстах от местечка, мне удалось организовать также кружок в составе 32-х человек и ячейку Красного Креста. Крестьяне деревни Рудной охотно начали вступать в члены Красного Креста после двухкратного раз'яснения о целях и задачах К-та Красного Креста. Посещаемость докладов всегда была очень большая (не менее 100 чел.). Немногим позже мною был организован кружок при заводе „Возрождение", в 3-х верстах от местечка (слушателей 14 чел.). Всего в 3-х кружках постоянных слушателей было 64 челов. Молодежь завода и деревни весьма развитая и занятия вести с ними было очень легко. Полному успеху работы в кружках мешал недостаток наглядных пособий и отсутствие средств для их приобретения. Каждую неделю мне приходилось проводить по одному занятию с каж-

дым кружком. Организация кружков в деревне имеет огромное значение не потому, что члены кружка изучают методы оказания скорой помощи в несчастных случаях, но потому, что эти занятия посещаются большим количеством селян, которые, после официальной лекции, вовлекают врача в беседу по всем вопросам санитарии и общей медицины. Во время таких бесед стоит большого труда направлять все вопросы на тему беседы и доводить разбор одного вопроса до конца, прежде чем перейти к другой теме. Санитарные беседы усваиваются крестьянами быстро, более молодая их часть сравнительно хорошо разбирается в вопросах охраны питьевых вод, — продуктов — в борьбе с инфекционными болезнями и т. д. За все время мною прочитано в кружках 12 лекций (6 — в Рудной, 3 — в Хойниках и 3 — на заводе). В остальные дни занятий лекции читались санитарным врачом района. Кроме этого, ежедневно в течение 20—25 минут в Амбулатории я имел краткие беседы с больными на тему: „Значение организации Кр. Креста".

## 2. Обследование населения

С третьего дня моего приезда на место я начал обследовать население по выяснению количества среди них трахомных больных. Обследовать на месте лично удалось только 5 деревень: Дворище, Рудная, Новоселки, Козелужье, Стреличево. При выборе деревни для моего обследования я руководствовался количеством амбулаторных больных и мнением местных врачей. Дни осмотра выбирал только праздничные дни. В помощь для массового осмотра населения я брал фельдшера районной больницы, который, благодаря хорошему знакомству с населением, быстро извещал их о предстоящем осмотре и тем способствовал тому, что большая часть населения была осмотрена мною. Во всех 5-ти селениях нельзя было отметить большого количества трахомных больных. В деревнях Козелужье и Стреличево их оказалось 3% общего количества населения, в остальных деревнях — 1,8%.

Бытовые условия и санитарное состояние осмотренных деревень ничем не отличаются от такого же других деревень. Местность низменная, застройка деревень очень густая, дома довольно большие (9×12 арш.), значительная часть из них новые. В средине жилое помещение чрезвычайно грязное, а, главное, почти все занято разными предметами домашней утвари. Кроватей в доме нет; спят все вместе на длинных нарах; изредка попадаются широкие, двойные, деревянные кровати; полотенца — общие. Полы в доме имеются всюду. Избкурниц нет. В каждом доме клопы. Много тараканов. Осве-

щение плохое (окно 1×1 арш.). Во всех деревнях отмечена мною передача трахомы по линии близких родственников, среди которых отмечается тесный контакт. 60 % из них заразились от старших родственников; начало заболевания в роду теряется в далеком прошлом. 40% указали на заражение в действующей армии во время империалистической и гражданской войны.

Всего осмотрено мною 4.079 человек. При осмотре населения мною обнаружено огромнейшее распространение чесотки; более 50% осмотренных страдают чесоткой. Бань в деревне совершенно нет, моются дома в широких лоханях. Причиной отсутствия бань в деревне является лень крестьян и недостаток коллективизма среди них. В этой области районный Комитет при упорном желании мог бы сделать чрезвычайно много. Например, я, после 4-х бесед с крестьянами деревни Рудной, добился их согласия построить общественную баню. Крестьяне охотно согласились вывезти лес и построить баню. Остановка лишь была в том, что Районному К-ту нужно было достать разрешение на бесплатный отпуск леса и закупить необходимые предметы для оборудования бани. Комитету сделать это довольно легко, так как затраченные деньги можно выручить в первый год функционирования бани, введя весьма скромную плату за пользование последней. Баня может обслужить население более чем в 3.000 человек.

### 3. Лечебная работа

Амбулаторная работа мною была развернута в здании районной больницы; для стационарных больных отведена палата в 5 кроватей. В районе до моего приезда никогда не работал окулист и почти, как правило, всякий чуть-чуть серьезный больной отправлялся в г. Гомель за свой счет. Принимать больн. приходилось в чрезвычайно тяжелых условиях: 1) местный мед. перс. не мог мне помочь по причинам, на которые укажу ниже, и 2) экономия средств не позволяла мне нанять временную сестру и здание для Амбулатории, и приходилось пользоваться кабинетом зубного врача. Лично мне приходилось вести запись больных, устанавливать очередь и проводить весь прием. Были дни, когда запись в Амбулатории достигала 140—150 человек. Разумеется, точность работы значительно страдала от такого большого наплыва больных. Еще труднее было с операционной работой. Отказаться от операционной работы я не мог,—так как это подорвало бы доверие к Красному Кресту и в мои специальные познания. Для хирургической работы мне пришлось специально обучить сестру

приготовлять больных к операции, стерилизовать материал и инструментарий, а также подавать последний во время операций. Больница в высокой степени не приспособлена к хирургической работе: здание старое, персонал не дисциплинированный; больные, приезжие крестьяне, без всякого разрешения идут куда им вздумается, вплоть до операционного стола во время работы, и никто их не останавливает. Мне пришлось затратить много энергии и иметь много неприятных разговоров, прежде чем я добился того, чтобы дежурный мед. персонал следил за чистотой и порядком в больнице во время хирургической работы. Несмотря на тяжелые условия, которые в кратком отчете перечислить нет возможности, к моей большой радости у меня не было ни одного случая нагноений и осложнений во время и после операций. В продолжение первого месяца главное внимание я обращал на трахомных больных. Я не только заставлял их лечиться в течение ряда недель, но и заставлял под контролем С. Совета приводить всю свою семью для осмотра глаз с целью выловить всех трахомных. Надо сказать, что население весьма охотно лечилось в продолжение указанного им срока и никогда не уклонялось от общего осмотра семьи. К концу пятой недели выяснилось, что главная масса трахоматозных больных начала прибывать из соседнего Брагинского района. 3-го июля я решил перебраться в местечко Брагин, чтобы дать возможность главной массе трахомных провести хоть небольшой систематический курс лечения. Население Брагинского района по бытовым условиям и характеру занятий ничем не отличается от населения Хойникского района. Район изобилует большими болотами, между которыми в большом количестве находятся песчаные холмы. По приезде в Брагинский район пришлось обратить внимание на весьма большое количество больных с воспалением слизистой оболочки глаз, например, в деревне Савичах таких больных оказалось более 30% общего населения. Такое большое количество больных воспалением слизистой оболочки глаз я об'ясняю тем, что в данном районе в летнюю сухую пору ветры поднимают огромное количество пыли, что ведет к чисто механическому раздражению и развитию воспаления слизистой оболочки. Само собой разумеется, что заражение трахомой всего легче происходит там, где на-лицо имеется воспаленное состояние слизистой оболочки.

Работать в Брагине мне также пришлось в районной больнице. Благодаря наличию в Брагине лучшего медицинского персонала моя работа развернулась особенно широко. По настоятельной просьбе больных я решил работать лишний ме-

сяц за свой риск и страх, но неожиданная болезнь заставила меня самого уехать лечиться. Больные прибывали ко мне за 50—60 верст из других районов. В районе глазная помощь плохо поставлена, вернее, ее совершенно нет. Трахома совершенно не лечится. Выдавливание трахомы участковый медперсонал производить не умеет.

Снабжение медикаментами и перевязочным материалом, а также питание стационарных больных я производил за счет местной больницы; только недостающие предметы выписал из гор. Киева и часть приобрел в местной аптеке, на сумму 20 р. 50 к.

Таблица № 1

| Название болезней | Первичн. больные | Повторн. посещен. | Всего посещен. | Оказана мед. помощь |
|---|---|---|---|---|
| Болезни век . . . . . | 140 | 163 | 303 | 91 |
| „ кон'юнктивы . . . | 688 | 406 | 1094 | 669 |
| „ роговицы . . . . | 192 | 60 | 252 | 42 |
| „ склеры . . . . . | 1 | 3 | 4 | 1 |
| „ радужки . . . . | 7 | 19 | 26 | 7 |
| „ хрусталика . . . . | 67 | — | 67 | — |
| „ сосудистой и сетчатой оболочки | 7 | 6 | 13 | 7 |
| „ зрительного нерва . . | 9 | 12 | 21 | 9 |
| „ слезо-проводящ. путей . | 63 | 52 | 115 | 63 |
| „ нервной и мышечн. сист. . | 4 | — | 4 | — |
| Злокачеств. опухоли . . . | 2 | — | 2 | — |
| д. Глаукома . . . . . | 5 | 4 | 9 | 5 |
| Паразиты . . . . . | 1 | — | 1 | — |
| Травма . . . . . . | 8 | 16 | 24 | 8 |
| Инородные тела . . . . | 17 | 10 | 27 | — |
| Аномалии рефракции . . . | 52 | — | 52 | — |
| Трахома I . . . . . | 181 | 317 | 498 | 181 |
| Трахома II . . . . . | 344 | 660 | 1004 | 344 |
| Трахома III . . . . . | 416 | 118 | 534 | 416 |
| Всего . . . | 2204 | 1846 | 4050 | 1848 |

Таким образом за два месяца мною принято 2.204 чел. первичных больных, которые сделали 4.050 амбулаторных посещений. 1.840 чел. получили медикаментозную помощь. Подобрано 52 пары очков. Написано 3.696 рецептов. Первое место по количеству принятых больных занимает трахома— 941 чел. из 2.204-х общего числа больных или 42,8⁰/₀. Второе место занимает катарральное воспаление слизистой оболочки— 502 чел. или 22,8⁰/₀. Из 941 человека трахомных 525 челов.,

т. е. более половины, больны первой и второй стадией трахомы, когда трахоматозный процесс особенно опасен в смысле передачи инфекции.

Каждого вновь прибывшего трахоматозного больного я заставлял на второй день приводить всю семью для осмотра. Принимая во внимание широкое оповещение населения о моем прибытии в район и количество трахоматозных больных в селах, где мной произведен поголовный осмотр, а также осмотр семейств каждого вновь прибывшего трахоматозного, я имею возможность сделать заключение, что почти все, за весьма немногими исключениями, трахомные больные Хойникского и Брагинского районов зарегистрированы мною.

Необходимо только исключить из этих районов деревни, расположенные по левому берегу Припяти, которые отрезаны от районных центров большими болотами и удалены верст за 40-50. В этих селах мне не удалось произвести осмотр, больных оттуда также не было. Таким образом цифра в 941 чел. трахоматозных для Хойникского и Брагинского районов весьма близка к истине и является почти точным показателем распространения трахомы в этих районах.

На каждые 10.000 населения приходится 129 челов. трахоматозных или 1,3%; в Брагинском районе 1,44% трахоматозных, а в Хойникском 1,16%. Показатель в 129 человек на 10.000 населения является весьма значительным по сравнению с показателем Западно-Европейских стран.

Среди общего количества трахоматозных больных— детей 99 челов. или 10,5%; из взрослых 842, или 89,5%. 90% общего количества трахоматозных совершенно безграмотны.

По национальностям больные распределяются так:

Белоруссов 846 или 90%, евреев 41 или 4,3%, украинцев 54 чел. или 5,7%.

За два месяца по двум районам мною зарегистрировано 108 слепых. Среди зарегистрированных слепых 28,7% ослепли от трахомы. Этот процент велик по сравнению со средним для бывшей Российской империи—(по профессору Головину) показатель слепоты будет 15 на 10 тысяч населения. В литературе такого большого показателя для Белоруссии не имеется.

Среди общего количества трахоматозных 23%, или 216 челов, имели значительное понижение зрения вследствие осложнения трахомы.

## Хирургическая работа

Таблица № 2

| №№ | Операции | Кол. | №№ | Мелкие операции | Кол. |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Удаление злокачеств. опухоли | 1 | 1 | Рассечение слезн. канальца | 40 |
| 2 | „ глазного яблока . | 1 | 2 | Удаление инородн. тел . | 11 |
| 3 | Операции на веках . | 62 | 3 | Вскрытие chalaziona . . | 17 |
| 4 | Иридектомия . . . | 13 | 4 | Выдавливан. трахомн. зерен | 75 |
| 5 | Извлечение старч. катаракты | 4 | | | |
| 6 | Удаление слезного мешка . | 9 | | Итого . | 143 |
| 7 | Рассечение сумки хрусталика | 2 | | | |
| 8 | Срезывание стафиломы . | 1 | | | |
| 9 | „ крыловид. плевы | 24 | | | |
| 10 | Тенотомия . . . . | 1 | | | |
| | Итого . . | 118 | | | |

За 2 м-ца, следовательно, мною произведено операций и оперативных пособий 261. Из оперированных мною больных 93 челов. безусловно нуждались в немедленной оперативной помощи, но не могли раньше поехать в Гомель вследствие бедности и отдаленности района от города.

Если считать, что для поездки больного в Гомель требуется только на одну дорогу 10 руб., не считая питания и квартиры, то потребовалось бы 930 руб. для перевозки больных по железной дороге. 115 человек с тяжелой формой трахомы также должны были поехать в Гомель, что потребовало бы еще 1.150 руб. *Таким образом при минимальном подсчете только хирургическая моя работа с'экономила населению 2.080 руб.*

Что касается 4-й задачи моей работы, а именно: обучение местного персонала лечению трахомы, то в этой области мне не удалось выполнить возложенную на меня задачу. Приезд мой в Хойники совпал с моментом жестокой вражды между врачами участковой больницы. Попав в такую среду, я не мог начать работу в больнице, вследствие того, что никто не мог дать твердых распоряжений об отводе ком-

наты, об оборудовании амбулатории, об отводе стационарных коек и т. д.

Каждый из них заявлял, что он не хозяин. К работе по приему глазных больных мне так и не пришлось привлечь врачей.

Молодые врачи весьма плохо знакомы с глазными болезнями. Например: один из них выпуска 1925 г. заявил мне: разве можно лечить глазные болезни? На мое предложение принять участие в оперативной работе он заявил: „воображаю, что за операции можно делать на глазу". Когда-же в конце концов этого молодого врача я втянул в свою работу, так он был очень удивлен обилию операций не только на глазу, но и на веках.

Аборт на участке считается самой популярной и важной операцией. Врачи очень дорожат мнением публики об их искусстве абортировать. В конце работы я прибег к некоторому нажиму, т. е. я начал требовать участия врачей в моей работе на основании распоряжения Окрздрава. Но было уже поздно. Времени оставалось очень мало. В Брагинской больнице дело обстояло гораздо лучше. Заведывающий больницей доктор Шоболдасов и весь остальной мед. персонал весьма охотно работали вместе со мной. Чрезвычайно тяжелые об'ективные условия: теснейшее здание больницы и амбулатории, отсутствие средств местного бюджета и краткость времени не дали возможности развернуть широкую и плодотворную работу в Брагинском районе.

Как в Хойникском, Брагинском, так и Комаринском районах, глазная помощь стоит на последнем месте. Ни в одной из указанных амбулаторий нет приготовленных медикаментов для амбулаторного лечения глазных болезней и в частности трахомы.

*Д-р Н. Лосев.*

---

# У барацьбе з сыфілісам

У Чэрвені 1926 г. ЦК. Беларускага Т-ва Чырвонага Крыжу пачаў на свае сродкі працу па абсьледваньні сыфіліса паміж вясковага насельніцтва БССР. Праца праводзілася ў кожнай акрузе паасобку, пры чым абсьледваньню падпалі па чарзе—адзін раён загадзя вядомы, як здаровы і другі вядомы, як заразны.

Абсьледваньні рабіліся дактарамі мясцовых вэнэрычных дыспансэраў, якія атрымлівалі ад ЦК патрэбныя на разьезды сумы і карткавы матар'ял. У тых акругах, дзе вэндыспансэраў ня было, абсьледваньні рабіліся спэцыяльнымі атрадамі.

Вынікі абсьледваньняў заносіліся на пасямейныя карткі, на якіх, апрача пытаньняў хваробы, зьмешчаны былі пытаньні з сацыяльна-бытавога жыцьця вясковага жыхарства.

Увесь карткавы матар'ял з усіх акруг БССР (за выключэньнем Гомельскай, дзе агляд яшчэ не праводзіўся) ужо паступіў і з большага распрацаваны.

Дэтальнае апісаньне мэтадаў дасьледваньня, параўнаньне вынікаў з данымі па гарадох БССР і адпаведныя вывады—у сучасны момант яшчэ ў распрацоўцы і будуць апублікаваны ў наступным нумары „Бюлетэня". Пакуль што даецца агульная сводка.

*Д-р А. Шапіро*

## Агульная ведамасьць абсьледаваных акруг

Па распаўсюджаньні сыфіліса

| НАЗВА АКРУГІ | Лік агледжаных вёсак | Лік картак | Склад агледжаных па полу | | | | З іх | | Нацыянальны склад | | Сацыяльна-бытавыя варункі іх жыцьця | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Мужчын | Жанчын | Дзяцей | Разам | Хворых на сыфіліс | Здаровых | Беларусаў | Іншых | Жывуць чыста | Брудна | Ложка су-польнае | Ложка асобнае | Пасуда су-польная | Пасуда асобная |
| Слуцкая . . | 3 | 143 | 230 | 266 | 229 | 725 | 14 | 711 | 725 | — | 416 | 309 | 725 | — | 725 | — |
| Менская . . | 4 | 280 | 393 | 446 | 716 | 1555 | 8 | 1547 | 1495 | 60 | 929 | 626 | 632 | 923 | 1478 | 77 |
| Мазырская . | 5 | 242 | 341 | 409 | 393 | 1143 | 10 | 1133 | 1143 | — | — | — | — | 114 | 1143 | — |
| Бабруйская . | 2 | 149 | 214 | 232 | 492 | 938 | 16 | 922 | 938 | — | 68 | 81 | 148 | 1 | 149 | — |
| Аршанская . | 11 | 489 | 685 | 884 | 935 | 2504 | 127 | 2377 | 2412 | 13 | — | — | — | — | — | — |
| Барысаўская . | 3 | 183 | 284 | 215 | 550 | 1049 | 15 | 1034 | 976 | 73 | 143 | 906 | 1049 | — | 1049 | — |
| Полацкая . . | 12 | 177 | 270 | 304 | 428 | 1002 | 51 | 951 | 1002 | — | 294 | 708 | 868 | 116 | 1002 | — |
| Магілеўская . | 27 | 215 | 340 | 414 | 413 | 1167 | 13 | 1154 | 1160 | 7 | 43 | 1219 | 1247 | 20 | 1253 | 13 |
| | | | | | | | | | | | | | с я м е й с т в ы | | | |
| Калінінская . | 6 | 365 | 399 | 453 | 779 | 1631 | 7 | 1624 | 362 | 3 | 32 | 333 | 352 | 13 | 356 | 9 |
| Віцебская . | 2 | 1758 | 2484 | 2848 | 1071 | 6403 | 45 | 6358 | 1654 | 1104 | 789 | 969 | 1618 | 140 | 1456 | 302 |
| Разам . | 75 | 4001 | 5640 | 6471 | 6006 | 18117 | 306 | 17811 | | | | | | | | |

# Праца дому адпачынку для піанэраў у „Курасоўшчыне“

(*Менская акруга*)

Па ініцыятыве і на сродкі Менскага Акруговага К-ту быў адчынены гэтым летам дом адпачынку для піанэраў у Курасоўшчыне. Для гэтага быў адрамантаваны дом, у якім раней былі бежанцы, набыта кухоннае начыньне і ложкі. Піанэры накіроўваліся ў дом адпачынку Менскім Акруговым Бюро Піанэраў. Памяшканьне мела магчымасьць прапускаць кожныя два тыдні толькі 20 чалавек.

За пэрыяд часу з 25 чэрвеня па 9 верасьня прайшло болей 102 дзяцей, з іх:

| Па раёнах | | Па полу | |
|---|---|---|---|
| Менск | 612 | Хлопцаў | 79 |
| Ляхаўскі р. | 25 | | |
| Кастр. | 11 | Дзяўчат | 23 |
| Заслаўскі | 1 | | |
| Койданаўскі | 3 | | |
| Шацкі | 1 | | |

| Па сацыяльнаму стану | | Па нацыянальнасьці | |
|---|---|---|---|
| Дзеці рабочых | 81 | Беларусаў | 21 |
| | | Яўрэяў | 77 |
| „ служачых | 78 | Расейцаў | 2 |
| | | Палякаў | 1 |
| „ саматужнікаў | 2 | Літвіноў | 1 |

Пераважны ўзрост 12—14 год.

Парадак у доме адпачынку быў наступны:

Дзень пачынаўся а 8 гадз. раніцы. Штодня, адразу пасьля ўставаньня 20 мінут заняткі па фізкультуры пад кіраўніцтвам інструктара-важатага, пасьля чаго ішлі ўмывацца, а каму дазвалялася—дык на рэчку. А 9 гадз.—сьнеданьне, з 10—12 гадз. сонечныя ванны, гульні: кракет, баскет-бол, гарадкі і г. д. А 12 гадз.—полудзень. З 12½—да 3-х гадзін—калі арганізаваная пагулянка ў лесе, ці на аэродром, калі сан.-бяседа, калі гульні. А з 3-х гадзін—абед, пасьля якога абавязкова „мёртвая гадзіна“. Далей гульні: шахматы, шашкі.

А 6 гадзіне—вячэра, а 9 гадзіне—чай. З $9^1/_2$ гадзін рабіліся „вечары самастойнасьці": калектыўныя сьпевы, дэклямацыя, пытаньні і адказы, вусная газэта і г. д.—і а 11 гадзіне спаць.

Гэткім чынам дні праходзілі па пэўнай праграме. Есьці адпачываючыя атрымлівалі 5 раз на дзень са сьвежых, добра прыгатаваных прадуктаў. Штодзённы рацыён кожнага быў роўны 4000 калёрыяў, што зусім добра для дзіцячага організму. Перад уступленьнем і перад уходам піанэры важыліся, пры чым лічбы паказалі, што адпачыўшыя „набіралі" ад 2-х да 12—13 фунтаў. Што датычыцца санітарна-асьветнай работы, дык адбылося некалькі гутарак на тэмы: „Пашто нам патрэбны зубы і як іх захаваць", „Як і колькі раз трэба чысьціць зубы" і г. д. Па просьбе самых піанэраў былі даны тлумачэньні—што такое рак, падучая хвароба, парок сэрца, мігрэнь, карысьць і шкода ад сонца і г. д.

Перад уходам рабіліся „разьвітальныя вечары", на якіх былі прысутны прадстаўнікі Камсамола, піанэр-організацый і Чырвонага Крыжу. Вечары адбываліся на адкрытым паветры і прыцягвалі ўвагу акалічнага сялянства і адпачываючых у суседнім Доме Саўгандслужачых. Ставіліся даклады аб працы і задачах Чырвонага Крыжу, урачыста выпускалі сьцен-газэту „Піанэр на адпачынку" і інш. Прымаліся рэзалюцыі, дзе піанэры дзякавалі Чырвоны Крыж за клопаты аб іх здароўі, выказвалі жаданьне падтрымаць яго як самі, так і праз сваіх бацькоў.

Усё паказанае сьведчыць, якую вялікую карысьць прыносіць хоць-бы гэткая невялічкая ўстанова. Зразумела, гэтага мала. Пажадана, каб на будучыну Акруговы Камітэт прадугледзіў большую прапускную здольнасьць для гэтага дому адпачынку. Павінна да гэтага прыцягнуць і іншыя зацікаўленыя організацыі, як-то „Друг дзяцей", Прафсаюзы, Т-ва Саматужнікаў і інш. Прафсаюзы павінны таксама клапаціцца аб здароўі дзяцей сваіх рабочых, як і аб самых рабочых. Нельга, да рэчы, ня вітаць, што да 10-годзьдзя Кастрычнікавай Рэвалюцыі адкрываецца пры Цэнтральным Доме адпачынку, сталае аддзяленьне для дзяцей (гл. „Рабочий" № 43).

Пры мэдычным аглядзе піанэраў можна было пераканацца ў небясьпечным стане здароўя нашае моладзі. Калі для прыкладу ўзяць зьмену ў 20 чалавек, дык у 7-мі лёгка было знайсьці тубэркулёз у першай стадыі: катар вярхушак, павялічэньне бронхіальнай залозы, крэмэраўскае прытупленьне. У 4-х—нэўрастэнія, у некаторых анэмія і толькі 4—5 чал. прызнаць зусім здаровымі. Гэта вынік дрэнных жыцьцёвых варункаў, сталага пераўтамленьня і слабага пітаньня.

Дом адпачынку для піанэраў дае магчымасьць ім паправіць улетку сваё здароўе. *Д-р А. Міхэльсон.*

# На походе-маневрах минского рабочего батальона „Осо-Авиахим" в сентябре м-це 1927 г.

С опозданием всего только на 20—30 минут, батальон собирается у дома Красной армии и стройными рядами с музыкой, а потом дружными песнями следует по маршруту. Энергично смотрят вспотевшие лица рабочих—дружинников и их командиров.

В конце батальона следует санотряд Бел. О-ва Красного Креста, преимущественно состоящий из женщин. Это необходимый придаток походной, боевой жизни.

Вот окраина города. Не успели еще бойцы подышать свежим воздухом, как раздается команда „ложись". Оказывается, замечен вблизи, довольно низко, аэроплан, идущий с разведки. В мгновение ока батальон исчез, только кое-где белые котомки выдают людей, плотно прижавшихся к земле. Проходит опасность и опять оживает дорога и гремит веселая песня.

Во время первого привала скромный санотряд Кр. Креста сразу же принимается за работу: подходят с царапинами, кровотечениями, появляются 1—2 чел. с более серьезными повреждениями. При втором, третьем привале появляется много рабочих с потертостями ног. Это явление увеличивается— и неудивительно: обувь случайная, старая и сапоги не приспособлены для похода.

После остановки на ночь в Острошицком Городке и присоединения его роты, батальон двинулся дальше. Дорога гористая и достаточно грязная, но жалоб на усталость нет. Даже неприятный спутник—потертость ног не останавливает участников похода. Когда по указанию врача комбат предложил остаться тем, кому трудно итти,—все наотрез отказались.

Только успели уйти на оборонительную линию, начинает накрапывать мелкий, осенний дождик. Глинистая местность сразу же превращается в скользкое болото, затрудняющее передвижение. Но это не смущает бойцов, которые терпеливо залегли и ждут противника. Вскоре во мгле дождя обрисовываются и наступающие цепи. Началась ружейная трескотня, местами строчит пулемет, ухает артиллерия, доносятся крики „ура". Рабочие упорно удерживают свою позицию. Противнику однако удается тактически обмануть рабочих, и налетевшая карьером кавалерия вносит в их ряды некоторое замешательство. Все-таки в плен из батальона никто не попал,—наоборот, есть взятые в плен со стороны наступавших. Кончи-

лось сражение с частичным выигрышем противника. Измокшие, в грязи идут бойцы на стоянку, где продолжаются горячие споры о том, что проделано хорошо и что плохо. Опыт показывает, что рабочими много сделано в смысле военизации, но еще больше нужно проделать.

Весь поход был совершен в шесть дней.

Санитарный отряд Красного Креста состоял из 8 человек: одного врача, двух помощников и 5 санитарок из Кружка Первой Помощи. При походе батальона на позицию и обратно, за медпомощью обратилось 102 человека зарегистрированных. Почти столько же было незарегистрированных обращений. Нужно отметить, что помощь приходилось оказывать не только бойцам батальона, но и красноармейцам. По серьезности заболевания можно подразделить так: 11 случаев серьезных, из них 1 желудочно-кишечное заболевание, 1—рана головы штыком, 2—растяжения, 5—серьезных ушибов, 2—ангины, нарывы, зубную и головную боль, остальные падают на потертости, опрелости, царапины и т. д.

Желательно, если в дальнейшем Красный Крест будет организовывать санотряд для какой-нибудь боевой части в походе, чтобы ими было обращено внимание на вполне приспособленную аптечку, состоящую 1) из ящика с отделениями, открыв который можно бы сразу видеть, где и какие медикаменты находятся, и 2) достаточного количества перевязочного материала, средств при потертости и опрелости. Необходимо также иметь хорошо приспособленную подводу для передвижения.

2/X-1927 г. *М. Вержбицкий.*

## 2-ой зубкабинет Красного Креста

*(Минский округ)*

По инициативе Шеф. Бюро Парт. ячейки Центр. Родильного Дома Окр. К-т Кр. Креста послал 10 сентября с./г. в подшефную деревню Моторово, Смиловичского района, передвижной зубоврачебный кабинет.

За истекших 2 месяца кабинет проделал большую работу, о чем говорят следующие цифры:

| Посещений больных было: | | По болезням: | |
|---|---|---|---|
| | | Кариозных | 30 |
| Первичных | 206 | Пульпитных | 78 |
| Повторных | 645 | Периоденцитных | 204 |
| Разовых | 114 | Гангренозных | 320 |
| Всего | 965 ч. | Всего | 632 з. |

| Пломб: | | Экстракций: | |
|---|---|---|---|
| Временных | 125 | Корней | 43 |
| Цементных | 91 | | |
| Серебряных | 64 | Зубов | 38 |
| Всего | 280 пл. | Всего | 81 |

Одновременно с указанной работой была организована ячейка Красного Креста и Военно-Санитарный кружок „Первой Помощи“. С крестьянами проводились беседы о гигиене полости рта, об уходе за зубами м проч.

С кружком „Первой Помощи“ занимался зубврач т. Розин-Фукс и местный лекпом. Кружок только в последние недели начал заниматься аккуратно, ибо уборка полей и огородов мешала работе.

Дело начато. Смиловичскому Райкомитету Красного Креста необходимо обратить внимание на Моторовскую ячейку, завязать с ней связь и распространить работу по всему Полоцкому С/Совету.

*Тихантовский*

---

# Чырвоны Крыж дапамог

*(З сялянскіх лістоў)*

* Ну, і паскакалі сяляне нашай вёскі з зубамі за свой век. Бывала, як прыпячэ таму ці іншаму селяніну, дык бедны ня ведае, дзе дзецца, бо да доктара далёка—10 вёрст, дык так і мучыцца, або лечыцца сваім старынным спосабам. Аж сорамна казаць, якія лякарствы ўжывала нясьвядомае сялянства. Як кажа пагаворка, „з гора, дык хоць галавою ў мора“, таксама і тут, усякі свайму гору сам дапамагаў. Такім чынам, злажылася свая мэдыцына, адзін залівау газаю другі мазьзю, трэці дзёгцем, мылам, гарэлкаю, курыным памётам і г. д. Адным словам паспыталі ўсяго за свой век. А цяпер ужо больш як два месяцы ў нашай вёсцы працуе зубалячэбны габінэт, прысланы Чырвоным Крыжам. У лячэбніцы прыймаецца 20 чалавек у дзень, цяпер ужо ў лячэбніцу сталі даведвацца менш; гэта сьведчыць, што ўсе сяляне вылячылі зубы. Лячэбніца будзе хутка пераведзена ў другую вёску.

Сяляне шчыра дзякуюць савецкай уладзе.

*Крайко Андрэй Дзям'янаў.*

в. Матарова, Голацкі с.-с., Сьмілаўскі раён на Меншчыне.

* Ужо два месяцы, як працуе зубалячэбны габінэт у вёсцы Матарова. Габінэт пасланы Менскім Акруговым Камітэтам Чырвонага Крыжу. Габінэт абслугоўвае ня толькі Матарова, але і другія вёскі. Феліцыянава, Голацк, Пяскі і шмат другіх вёсак. Шмат каму з сялян ужо пазалечавана зубоў, а іншым павырывана.

Сяляне шчыра дзякуюць свайму шэфу—Чырвонаму Крыжу і просяць, каб як скончыць сваю працу зубалячэбны габінэт, каб прыслалі другога доктара, па жаночых хваробах, бо справа з жаночымі хваробамі на вёсцы абстаіць зусім слаба.

*В. Галубовіч.*

Селянін з вёскі Феліцыянава, Голацкага с.-савету, Сьмілавіцкага раёну.

# Узмацняем і пашыраем працу

(*Ячэйка Мэдфака БДУ*)

Ячэйка Чырвонага Крыжу на мэдычным факультэце БДУ існуе ўжо даўно. Але фактычна яна пачала працаваць толькі з мая м-ца гэтага году, пасьля перавыбараў складу Бюро. Ранейшы склад Бюро працаваў толькі 42 дні. У сучасны момант у складзе яго ёсьць 5 членаў і 2 кандыдатаў—таварышоў вельмі працаздольных. Бюро ячэйкі ў сваёй штодзённай працы імкнулася злучыць у шэрагі Чырвонага Крыжу магчыма большы лік сяброў-студэнтаў і магчыма шырэй выкарыстаць членаў Т-ва на практычнай рабоце.

У сучасны момант ячэйка Мэдфаку БДУ налічвае ў сваім складзе 151 сябра, прычым 52 сябры завербаваны гэтым складам Бюро.

Для ўдзелу ў практычнай працы Бюро вылучыла 41 ч. у якасьці кіраўнікоў Гурткоў Першай Дапамогі. Між іншым т. Вержбіцкі быў абраны для ўдзелу ў манэўрах рабочага батальёну, які ён разам з доктарам абслугоўваў 6 дзён.

У хуткім часе гурткі Першай Дапамогі пачнуць функцыянаваць на 1-м і 2-м курсах, запіс на якія ўжо праведзены. Таксама пастаноўлена організаваць санітарную дружыну на Мэдфаку.

Працай Бюро адкрываецца пры чытальні Мэдфаку „Куток Чырвонага Крыжу“.

*Ізраільскі.*

# ПА АКРУГАХ

## Чырвоны Крыж па Магілеўшчыне

Да апошняга адміністрацыйнага падзелу БССР і далучэньня да Магілеўскай акругі Калінінщчыны,—Магілеўшчына складалася з акруговага цэнтру Магілева і 10 раёнаў. Пасьля далучэньня Калінінщчыны, лік раёнаў павялічыўся на 16, з якіх частка, як: Чачэвічы, Хоцімск, Чырвонапольле адлягаюць ад акруговага цэнтру Магілева надта далёка. Дзякуючы адсутнасьці добрага шляху зносін, адсутнасьці цягніковага і аўтобуснага руху, жывая сувязь з гэтымі раёнамі кульгае, і праца організацыі Чырвонага Крыжу там і па сёньняшні дзень не пастаўлена на належную вышыню.

Што-ж датыча рэшты раёнаў, дык справа стаіць лепш. Яны маюць аўтобуснае і цягніковае палучаньне, дзякуючы чаму ёсьць магчымасьць як прадстаўнікам Акр. Камітэту, таксама і працаўнікам Раён. Камітэтаў часта бываць першым у раёнах, а другім у Акр. Камітэце і стала трымаць паміж сабою жывую сувязь. Пісьмовая сувязь з раёнамі наладжана здавальняюча.

Трэба падкрэсьліць, што хоць організацыя Чырвонага Крыжу ў Магілеўскай акрузе зьяўляецца яшчэ маладой, але дзякуючы папулярызацыі з боку Акр. Камітэту, насельніцтва зразумела ўжо тыя мэты і задачы, якія стаяць прад Таварыствам і дабрахвотна ідзе ў шэрагі яго сяброў. Аб гэтым сьведчаць наступныя лічбы:

У 1925-26 бюджэтным годзе па Магілеўскай акрузе было:

Ячэек Чырвонага Крыжу . . . 3
Райупаўнаважаных Чырв. Кр. . . 17

А ў 1926-27 г. лік ячэек павялічыўся да 39, і замест Райупаўнаважаных афармлены Райкамітэты.

**Сяброўства Чырвонага Крыжу.** Магілеўскі Акруговы Камітэт Чырвонага Крыжу яднаў у:

| Гады | Агульны лік сяброў | Рабоч. і служ. | Сялян | Саматужн. | Чырв. арм. | Іншых |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1925-26 г. | 613 сяброў, з іх: | 467 | 34 | 100 | — | 30 |
| 1926-27 г. | 3112 „ „ „ | 1935 | 598 | 182 | 260 | 137 |

Што дало павялічэньне сяброўства на 400⁰/₀. Гэтыя лічбы як найлепш сьведчаць аб тэй працы, якую прарабіў Акруговы Камітэт пры непасрэднай дапамозе Райкамітэтаў на мясцох.

Калі мы параўнаем лічбы сяброўства сялян, дык убачым, што ў 1925-1926 г. сяляне складалі 5,5⁰/₀ агульнага ліку сяброў, а ў 1926 27 г. яны складаюць 19,2⁰/₀ гэтага ліку.

**Грашовая частка.** З ніжэйпаказанай таблічкі магчыма яскрава бачыць грашовы стан Акр. Камітэту параўнаўча за апошнія два гады:

| №№ п. п. | Назва прыбыткаў | Гады 1925-26 | Гады 1926-27 | №№ п. п. | Назва выдаткаў | Гады 1925-26 | Гады 1926-27 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Астача на 1/X . | — | 370-25 | 1 | Утрыман. апарату | 205 | 1697-15 |
| 2 | Сяброўскія ўступныя . . . | 305-10 | 1336-19 | 2 | Арганіз. выдаткі | 79-58 | 769-75 |
| 3 | Ахвяраваньні, выпадковыя прыбыткі . . . | 227-48 | 1291-28 | 3 | Вайск. сан.падрых. | — | 368-46 |
| 4 | Датацыя ЦК . | 713-33 | 1870 | 4 | Сан.-асьвет. праца | — | 160-44 |
| 5 | Значкі БТЧК . . | 41-30 | 91-50 | 5 | Санітар. дапамога | 100 | 5 |
| 6 | Доўгатэрміновая пазыка . . . | — | 4000 | 6 | Сацыяльн дапам. | 41 | 260-78 |
| | | | | 7 | Піанэр. прац1 . | — | 40 |
| | | | | 8 | Ахова здар. дзяцей | 183 | 238-25 |
| | | | | 9 | Дапамога пры навальным ліху | — | 100 |
| | | | | 10 | Савету сац. дапамогі . . . | — | 175 |
| | | | | 11 | Абсталяв. заводу | — | 4052-60 |
| | | | | 12 | Іншыя выдаткі . | 308-28 | 255-60 |
| | | 1287-21 | 8959-22 | | | 916-96 | 8123-03 |

Як мы бачым, лічбы па прыбытковай і па выдатковай частцы супроць 1925-26 году павялічыліся, па сяброўскім і ўступным узносам прыблізна на 430%, па ахвяраваньням інш. на 570%, па датацыі ЦК на 260%.

**Вайскова-санітарная падрыхтоўка.** У мінулым 1925-26 годзе ніякая праца ў галіне арганізацыі Гурткоў Першай Дапамогі не праводзілася. У 1926-27 г. згодна дырэктыў з боку ЦК Акр. Камітэт пры дапамозе профсаюзных і грамадзкіх арганізацый, арганізаваў 21 гурток з агульным лікам слухачоў да 700 асоб. З гэтага ліку 7 гурткоў скончыла працу і кваліфікавала 119 асоб. Апрача тэорытычных заняткаў праводзіцца практычная праца—наведваньне больніц, накладваньне павязак, манэўры ў полі і г. д. Тут трэба падкрэсьліць, што гурткі выклікаюць вялікую зацікаўленасьць з боку моладзі, якая шчыра адносіцца да гэтай працы.



На манэўрах. Гурток першай дапамогі г. Магілева.

Як спроба быў арганізаваны вясковы гурток у с. Брацькавічах, Касьцюковіцкага раёну, дзе з агульнага ліку слухачоў гуртка 34 сялян, добра скончыла 25, якія і атрымалі належныя пасьведчаньні.

Па гораду Магілеву гурткоў арганізавана 17 з лікам слухачоў 625.

Па раёнах акругі гурткоў арганізавана 4 з лікам слухачоў 75.

У стадыі арганізацыі знаходзяцца гурткі ў наступных раёнах: Шклоўскім—2, Кормянскім—1, у Сухарэўскім—1.

**Сан.-асьветная праца.** Акруговым Камітэтам здабыты і распаўсюджаны па вясковым хатам-чытальням 20 бібліятэчак сан.-асьветнага зьместу. У сучасны момант Акр. Камітэт здабыў у Выдавецтве Нарком. Аховы Здароўя РСФСР—5 сан. куткоў, якія па атрыманьні будуць таксама распаўсюджаны па раёнам. Пры гэтым праводзяцца лекцыі на сан.-асьветныя тэмы.

**Санітарная дапамога вёсцы.** У мінулым годзе Акр. Камітэт выдаў з сваіх сродкаў на пабудову ў Кармянскім раёне і студыі—105 р. На 1927-28 г. Акр. Камітэтам па каштарысу

прадугледжана пабудова 2-х лазьняў і 7 студняў, на якую мэту асыгнавана 1200 руб.

**Сацыяльная дапамога.** Акруговы Камітэт выдаў дапамогі сялянам і дэмабілізаваным чырвонаармейцам у агульнай суме 360 р. 78 к.; індывідуальна сялянам—168 р. 16 к.; дэмабілізаваным чырвонаармейцам—92 р. 12 к. і сялянам вёскі Гарбавіч, Касьцюковіцкага раёну—пагарэльцам, як дапамога пры стыхійных няшчасьцях—100 руб.

**Ахова здароўя дзяцей.** Акруговы Камітэт мае ў Чэрыкаве консультацыю, імя Чырвонага Крыжу, якая працуе з 1-га ліпеня 1927 г. За час яе працы з паказанага тэрміну на 1-е кастрычніка 1927 г. было даведваньняў:

Па ахове дзяцей . . . . 26
Цяжарных . . . . . . 18

Такая нязначная колькасьць даведваньняў тлумачыцца тым, што консультацыя знаходзілася пры райбольніцы і працавала ня ўвесь тыдзень а толькі адзін дзень у тыдзень. У сучасны момант Акр. Камітэт атрымаў дадатковы каштарыс на канчатковае абсталяваньне і ўтрыманьне апарату ў суме 587 р., складзены Чэрыкаўскім Райкамітэтам. Акр. Камітэт на гэту мэту прадугледзіў 300 р., рэшта грошай павінен знайсьці сам Раён. Камітэт на месцы. Консультацыя павінна працаваць у далейшым ні адзін дзень у тыдзень, а ўвесь тыдзень і павінна быць пераведзена ў асобнае памяшканьне ў цэнтры гораду. Акруговы Камітэт дапамагаў таксама ясьлям, якія існуюць у Брацькавічах, Касьцюковіцкага раёну. Была апрача таго выдадзена субсыдыя сялянскай амбуляторыі ў Брацькавічах у суме 200 руб.

**Завод газавых вод.** Пасьля доўгіх клопатаў, Акр. Камітэт атрымаў завод, які ў царскі час належаў організацыі Чырвонага Крыжу. Пасьля прыёмкі заводу, на абсталяваньне яго выдаткована 5492 руб. 60 к. Уся маемасьць заводу і на 1 кастрычніка 1927 г. ацэнена ў суме 13.797 р. 97 к. За час з 7 мая па 1 кастрычніка 1927 г. заводам продана сваёй вытворчасьці на 11.756 руб., пры чым атрымана чыстага прыбытку—3.784 руб. Рынак захоплены на 60%. Штат заводу—7 асоб, якія да організацыі заводу зьяўляліся беспрацоўнымі.

На зімовы час прадугледжана ў сувязі з памяншэньнем рэалізацыі газірованай вады адчыненьне мёдавароўні. Уся падрыхтоўчая праца да ажыцьцяўленьня гэтага мерапрыемства скончана і 20 кастрычніка завод выпускае на рынак „мядок" заводу Чырвонага Крыжу.

**Магазын санітарыі і гігіены.** Таксама Акр. Камітэт супольна з Аптэкакіраўніцтвам на 50% паявых асновах адчыніў магазын санітарыі і гігіены, які абслугоўваецца адной штат-

най адзінкай. Абсталяваньне магазыну каштуе 430 р. 80 к. За час з 25 красавіка па 1 кастрычніка магазын прадаў сваіх тавараў на 6604 р.; чысты прыбытак за паказаны тэрмін выразіўся ў суме да 500 руб., якія падзяляюцца пароўну паміж Акр. Камітэтамі і Аптэкакіраўніцтвам.

**Нашы актывісты.** Працай па Чырвонаму Крыжу асабліва выдзяляецца Старшыня Сухарэўскага Райкамітэту—доктар *Крэмер*. Дзякуючы яго шчырым адносінам да справы, у яго раёне Чырвоны Крыж карыстаецца значнай папулярнасьцю. Пры правядзеньні кампаніі дапамогі пацярпеўшым ад стыхійных няшчасьцяў, т. Крэмер выявіў максымум энэргіі і ініцыятывы. Сухарэўскі Райкамітэт зьяўляецца паказальным па ўсёй Магілеўскай акрузе.

Старшыня Акр. Камітэту *Гэльфанд.*

Адказны Сакратар *Паткоўскі.*

---

# Пяць год працы Чырвонага Крыжу на Мазыршчыне

Аддзяленьне Беларускага Т-ва Чырвонага Крыжу ў Мазыры было організована ў канцы 1922 г. Тады-ж была распачата вярбоўка сяброў; было завярбована некалькі дзесяткаў сяброў, пераважна мэдпрацоўнікаў.

Ня маючы амаль ніякіх сродкаў, апрача некалькіх сот тысяч рублёў саўзнакамі (што ў пераводзе на залатую валюту складала некалькі рублёў), аддзяленьне Чырвонага Крыжу прыняла ад Здраўаддзела на ўтрыманьне дзіцячую консультацыю ў Мазыры, а з 10/II-1923 г. адчыніла пры ёй гінекалёгічны габінэт.

Сродкі на ўтрыманьне гэтых устаноў вышукваліся ад платных відавішчаў, субсыдый некаторых гаспадарчых органаў і іншых выпадковых паступленьняў. На працягу 1923 г. аддзяленьнем былі праведзены дзьве кампаніі па збору ахвяраваньняў: 1-ая на карысьць працоўных Японіі, пацярпеўшых ад земляўздрыгу і 2-ая—на карысьць Рурскіх рабочых. Была сабрана даволі значная сума.

У красавіку 1923 г. было выдана харчаваньне 645 дзецям бежанцаў—сэрбаў, што накіроўваліся праз Мазыр на бацькаўшчыну.

Весьці працу на выпадковыя паступленьні ня было магчымасьці і з 1-VII-1923 г. быў адчынен у Мазыры Унівэрсальны магазын.

Да 24-VI-1924 г. Аддзяленьнем Т-ва Чырвонага Крыжу кіраваў упаўнаважаны Ц. К. а з 24-VI-1924 г. Прэзыдыумам АВК быў выдзелены часовы Камітэт Чырвонага Крыжу з 5 асоб. Завярбаваныя з самага пачатку дзейнасьці Аддзяленьня Чырвонага Крыжу сябры, заплаціўшы адзін раз сяброўскія ўзносы, больш узносаў не плацілі і такім чынам аўтаматычна выбылі з складу сяброў Т-ва.

Выдзеленым часовым Камітэтам у сакавіку 1925 г. была распачата кампанія па вярбоўцы сяброў, якая дала да канца году 156 сяброў (гарадзкіх). 10-II-1926 г. была склікана Акруговая Конфэрэнцыя, якая абрала сталы Акруговы Камітэт і Рэвізыйную Камісію. Абраны Камітэт распачаў плянавую працу па распаўсюджваньні ідэй і задач Т-ва Чырвонага Крыжу сярод шырокіх колаў працоўных.

На працягу 1926 г. было праведзена шмат дакладаў, як па гораду, так і па раёнах.

У выніку гэтай працы на 1-І-1927 г. мы мелі сябраў Т-ва:

| | |
|---|---|
| у Мазыры . . . . . | 202 |
| па раёнам . . . . . | 470 |
| разам . | 672 |

Ячэек: у горадзе—15 і у раёнах—10; 3 раённых Камітэты і 5 раённых упаўнаважаных. А на 1-Х-1927 г. мы маем:

| | | |
|---|---|---|
| у горадзе | 13 ячэек (некалькі ячэек аб'яднань)— | 287 сябр. |
| у раёнах | 19 „ | 909 сябр. |
| | Разам 32 ячэйкі | 1196 сябр. |

Улетку 1927 г. была праведзена перавыбарная кампанія нізавых ячэек і раённых Камітэтаў і была абсьледавана праца ўсіх раённых камітэтаў і нізавых ячэек гораду і фабрычных ячэек у раёнах. Гэта значна ажывіла працу. Цікава адзначыць, што папулярнасьць Т-ва Чырвонага Крыжу пранікла і ў гушчу сялянства. На аднэй з раённых Конфэрэнцый селянін у сваёй прамове адзначыў, што ніводная грамадзкая організацыя так ня цікавіць сялянства, як Т-ва Чырвонага Крыжу.

Акруговы Камітэт утрымоўваў на свае сродкі Консультацыю ў Мазыры да 1-Х-1925 г.; улетку 1925 г. утрымоўваў палявыя ясьлі ў Лельчыцкім раёне; у 1924 г. на працягу $1^1/_2$ месяца ўтрымоўваў на свае сродкі сухотную санаторыю ў Мазыры; на працягу 2-х гадоў адпускаў стыпэндыі студэнтам-мэдыкам (выдаткована—1.110 руб.).

З пераходам Мазырскай Консультацыі на мясцовы бюджэт, мэдычная праца была перанесена ў раёны, так: з 1/III-26 г.

на сродкі Т-ва Чырвонага Крыжу адчынена Консультацыя ў Нароўлі; з 1/I-1927 г.—у Капаткевічах і з 15-VIII-27 г. у Петрыкове. Апрача таго па ініцыятыве мясцовай ячэйкі Т-ва Чырвонага Крыжу пры фабрыцы „Зьвязда“ (Канцэвічы) адчынена Консультацыя. З 1/III-1927 г. Камітэт дапамагае Мазырскай Дзіцячай Консультацыі (дадаецца 38 р. 50 к. у месяц на ўтрыманьне сястры малочнай кухні).

Улетку 1927 г. на сродкі Т-ва Чырвонага Крыжу, пры дапамозе самога насельніцтва, утрымоўваліся палявыя яськлі ў 2-х вёсках. Выдана дапамога ў суме 75 руб. на організацыю піанэр-пляцовак у Мазыры.

У Капаткевічах на сродкі Т-ва Чырвонага Крыжу распачата будоўля лазьні, якую мяркуюць закончыць да дзесяцігодзьдзя Кастрычнікавае Рэвалюцыі.

Да 10 гадавіны Кастрычнікавай Рэвалюцыі мяркуецца адчыненьне дзіцячага зубнога габінэту ў г. Мазыры.

Пры летнім доме адпачынку ў Дарашэвічах (Петрыкоўскага раёну) быў адчынены Чырвона-Крыжны ларок, на прыбыткі ад якога Петрыкаўскі раёны Камітэт адчыніў Консультацыю. За 3½ месяцы працы ларок даў прыбытку каля 150 р.

Пры ячэйцы Т-ва Чырвонага Крыжу Каўэскадрона ў Мазыры організаваны Чырвона-Крыжны сан. куток.

Акруговы Камітэт стварыў нязначны фонд сан. абароны з дабрахвотных ахвяраваньняў, які складае 48 руб.

Устаноўлены скарбункі Чырвонага Крыжу па лячэбных установах—2 у горадзе і 2 у Юравічах.

Разгортваньне Гурткоў Першай Дапамогі спачатку ішло слаба,—да гэтага часу закончыў працу толькі адзін гурток у Капаткевічах. У цяперашні час сетка гурткоў разгорнута: на 1/X-27 г. мы маем у Мазыры 2 гурткі і ў раёнах—11 гурткоў. У гурткі ўцягнуты жонкі вайскоўцаў. Лектары—дактары працуюць бясплатна. Да 10-ай гадавіны Кастрычнікавай Рэвалюцыі рыхтуецца адчыненьне 3 гурткоў ў Мазыры, а так сама першы выпуск у 2-х гуртках (на фабрыцы „Пралетары“ і сярод дэлегатак Жанаддзелу). Адчуваецца недахоп у падручніках, як для кіраўнікоў, так і слухачоў.

Калі параўнаць працу на правінцыі, дык неабходна вызначыць што найбольш працаздольным зьяўляецца Капаткевіцкі раённы Камітэт. Ня гледзячы на тое, што раён самы адсталы, Чырвона-Крыжная справа разьвіваецца там у самых глухіх кутках.

У заключэньне неабходна адзначыць, што ў правядзеньні Чырвона-Крыжнай працы і наданьню гэтай організацыі патрэбнага грамадзкага аўтарытэту,—надта шкодзіць у Мазыры

Унівэрсальны магазын. Дзякуючы гэтаму здаралася, што Чырвоны Крыж лічылі гандлёвай фірмай. Цяпер, калі Універмаг пераданы Дзіцячай Камісіі, Чырвоны Крыж набывае ў вочах працоўных усё больш грамадзкі характар.

Старшыня Мазырскага Акр. К-ту Чырвонага Крыжу
*Кандрашук.*

# Чырвоны Крыж на Віцебшчыне

Ліквідаваны ў 1924 г., пасьля далучэньня б. Віцебскае губ. да БССР, „Витебский Губкомитет РОКК" пакінуў пасьля сабе спадчыну даўгоў больш як на 20000 руб. і дзьве ўстановы-Амбуляторыю і Дом Санасьветы, якія ўтрымліваліся на кош цэнтру. З гэтага часу на Віцебшчыне быў Упаўнаважаны, які быў заняты амаль выключна ліквідацыяй доўгу і рознымі іншымі справамі, толькі ў красавіку 1926 г. адчыніўся выбарны Камітэт, які фактычна пачаў працаваць з пачатку 1927 г. Тады ў Віцебшчыне налічвалася сяброў Т-ва Чырвонага Крыжу 190 чал.

Пачынаючы з гэтага году, Віцебскі Камітэт зрабіў 36 масавых дакладаў, прысьвечаных значэньню, мэтам і задачам Чырвонага Крыжу, 2 даклады ў Прэзыдыумах Акрвыканкому і Акрпрафсавету, узмацніў працу па набіраньні сяброў і пачаў арганізаваць ячэйкі на прадпрыемствах і ва ўстановах. У сакавіку 1927 г. у мясцовай прэсе Камітэтам быў зьмешчаны кароткі агляд праробленай працы (артыкул—„Чырвоны Крыж і яго праца".



Лекцыя Гуртка Першай Дапамогі пры фабрыцы панчох г. Віцебска.

Дзякуючы разгорнутай кампаніі да 1/X-1927 г. у Віцебскай Акрузе аказалася ўжо 2000 сяброў, 5 Раённых Камітэтаў (Лёзна, Сенна, Сураж, Сіроціна і Гарадок), 2 ініцыятыўныя

групы (Бешанковічы і Чашнікі) і Упаўнаважаныя у Віцебскім і Кузьнецкім раёнах.

У Менжінскім, Езерыненскім і Высачанскім раёнах праца знаходзіцца на ступені арганізацыі.

Апроч таго, у г. Віцебску ёсьць 3 ініцыятыўныя групы, 15 Упаўнаважаных і 8 ячэек.

Па Вайскова-Санітарнай падрыхтоўцы арганізаваны і працуюць гурткі Першай Дапамогі ў наступных раёнах: у Гарадку-1 гурток, у Сыроціне—2, з якіх адзін скончыў заняткі, выпусьціўшы 11 чал., у Ліозьне—2 гурткі, з якіх таксама адзін скончыў заняткі, выпусьціўшы—28 ч., у Суражы 1 гурток, які скончыў заняткі, пры чым ёсьць прапанова адчыніць другі.

Агулам у гэтую працу ўцягнута каля 200 чал.

У Віцебску гурткі Першай Дапамогі арганізаваны пры 19 прадпрыемствах і ўстановах у ліку 21. З іх скончылі заняткі 6 гурткоў; агульны лік выпушчаных—90 чал. У сучасны момант працуе 15 гурткоў.

Апроч таго, былі організаваны гурткі на Сьпірта-гарэлачным заводзе на фабрыцы гнутай мэблі і ў Швэйпроме, але часова дзейнасьць іх у сучасны момант спынена.

Усяго па Віцебску ў гэтую справу ўцягнута каля 650 чалавек.

Намечана ў бліжэйшы час пабудаваць студні ў найбольш незаможных раёнах, на якую мэту асыгнавана 300 руб., выдана датацыя 24 вясковым ясьлям і, апроч таго, 100 руб. на ўтрыманьне ясьляў пры аддзеле Працы, якія адчынены для дзяцей, маткі каторых працуюць на грамадзкіх работах. Камітэт дапамог 15 псыхічна-хворым зьвярнуцца на бацькаўшчыну, дапамог піанэрам у іх культурных патрэбах і пад час лягернае кампаніі, даўшы грошы і літэратуру санітарнага зьместу. Камітэт дапамог уцекачом і незаможным, зрабіў узнос у камісію на барацьбе з сухотамі.

Ад 1/X-1926 г. да 1/X-1927 г. Камітэт выдаў грашовае дапамогі:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1) | Былым уцекачом і незаможным . . . | 11 р. | |
| 2) | Псыхічна хворым на праезд на бацькаўшчыну | 49 р. | 21 |
| 3) | На ўтрыманьне Гурткоў Першай Дапамогі . | 355 р. | 57 |
| 4) | На пабудову студняў у раёнах . . . | 300 р. | — |
| 5) | На ясьлі ў раёнах . . . . . | 250 р. | — |
| 6) | „ „ у горадзе пры аддзеле Працы. . . | 100 р. | — |
| 7) | На барацьбу с сухотамі . . . . | 50 р. | — |
| 8) | Лекавым установам на ўзмацненьне мэддапамогі | 9887 р. | 36 к. |
| 9) | Піанэратрадам . . . . . . | 323 р. | — |
| 10) | На ўтрыманьне дому санасьветы . . | 450 р. | — |
| | Усяго . . . | 11773 р. | 14 к. |

Старшыня Віцебскага Акруговага Камітэту *Ніхамін.*



Дзіцячыя яcьлі Бел. Чырв. Крыжу ў в. Новае Сяло, Талочынскага р., Аршанскай акр.

# Агляд дзейнасьці Аршанскага Камітэту Чырвонага Крыжу.

На пачатку апэрацыйнага году па Аршанскай акрузе лічылася сяброў Чырвонага Крыжу 519 чалавек. Кампанія гэтага году дала прырост сяброў да 1904 чал., значыцца лік сяброў павялічыўся на 1385 чал. У гэты лік не ўваходзяць сябры Чырвонага Крыжу далучаных раёнаў.

На 1/X-1927 г. па раёнах маецца наступны лік сяброў Чырвонага Крыжу:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Аршанскі раён | 131 ч. | Талочынскі раён | 119 ч. |
| гор. Ворша | 437 ч. | Горацкі „ | 92 ч. |
| Дубровенскі раён | 265 ч. | Ляднянскі „ | 192 ч. |
| Багушэўскі „ | 140 ч. | КахаНоўскі „ | 36 ч. |
| Дрыбінскі „ | 200 ч. | Расьнянскі „ | 140 ч. |
| Капыльскі „ | 185 ч. | Амсьціслаўскі | 122 ч. |
| Круглянскі „ | 97 ч. | Чэрэйскі „ | 73 ч. |

Па Крупскім раёне вестак не атрымана.

Усяго ў акрузе—2239 сяброў.

З гэтага відаць, што адсталымі раёнамі зьяўляецца Круглянскі, Горацкі, Каханоўскі і Чэрэйскі. Да адсталых можна залічыць і Дубровенскі раён, ня гледзячы на параўнаўча вялікую колькасьць сяброў, бо гэта колькасьць была і на 1/X-1926 году і не павялічылася на працягу году. У Талочынскім раёне хоць і павялічыўся лік сяброў, але вельмі мала. З мэтай ажыўленьня работы ў гэтых адсталых раёнах неабходна ў бліжэйшы час камандыраваць туды прадстаўніка Камітэту.

Сяброўскіх і ўступных узносаў за 1926-1927 г сплочана 523 р. 24 кап., па падпісных лістох 2 руб. 50 кап., ад прадпрыемстваў 1098 р. 56 к., розных узносаў 234 руб. 52 к. і датацыя ЦК—1250 руб.

На сродкі Чырвонага Крыжу Акр. Камітэт, дзеля дапамогі беднейшаму насельніцтву, утрымліваў аднаго док-


Грамадзкая лазьня ў Воршы, якую арандуе і адрамантаваў Акруговы Камітэт Бел. Чырвонага Крыжу.

тара пры Цэнтральнай Амбуляторыі ў Воршы, якому плаціў 65 р. у месяц; выдаў розным асобам і Савету Сацыяльнае Дапамогі пры Кансультацыі—415 руб 65 кап.; утрымліваў адны дзіцячыя сялянскія яслі; асыгнаваньнем 150 руб. прыняў удзел у пасылцы на курорт дзяцей Варшанскае дзіцячае камуны; арганізаваў адзін Гурток Першае Дапамогі, які выпусьціў 31 чал.; зараз канчае работу Гурток Першае Дапамогі ў Багушэўскім раёне; далей Камітэт нанава адрэмантаваў Аршанскую мясцовую лазьню, якую сам-жа арандуе.

Як відаць са усяго, Камітэт пашырыў працу па ўсіх галінах сваёй дзейнасьці, але значна ня мог яе павялічыць з

прычыны таго, што на рэмонт лазьні і куплю для яе катла было патрачана шмат часу і сродкаў.

Праца Камітэту асьвятлялася ў мясцовай прэсе і аб ёй ён рабіў даклады ў Выканкоме і Гаркоме.

*Бароўскі.*

---

# В Гомельском Окр. Комитете

18 октября состоялось заседание Гомельского Окр. Комитета, на котором выяснились интересные данные о работе кружков Первой Помощи.

Д-р Лифшиц в своем докладе указал на развитие сети кружков Первой Помощи по городу в количестве 16 и по округу в количестве 9; поступают дальнейшие запросы от предприятий на организацию новых кружков. Занятия в основном во всех кружках протекают нормально, за исключением некоторых; на имеющиеся дефекты нами обращено внимание и даны соответствующие указания. В настоящий момент закончили занятия 9 кружков, каковым после испытания выданы соответствующие удостоверения и нарукавники Кр. Креста. Кружки 1-ой Помощи на практике уже участвовали в „Неделе Обороны“, в опытной мобилизации и в смотре боевых дружин. Для закрепления знания окончившие будут слушать пе-




Дружына Першай Дапамогі г. Гомля

риодические, популярные лекции и по 15—20 чел. будут пропускаться для практической работы в амбулатории.

В прениях по докладу д-ра Лифшица высказались все старосты, отметившие недостатки и пробелы в работе Кружков Первой Помощи. Главным отрицательным моментом в работе, по мнению старост и руководителей, является отсутствие достаточной литературы, перевязочного материала и наглядных пособий.

Старостат Правления Зап. жел. дор. отмечает, что их кружок не был достаточно ознакомлен со всеми методами подачи скорой помощи, не умел измерять температуру, ставить банки, компрессы делать подкожные впрыскивания, и т. д.

Отрицательным моментом старостаты считают также отсутствие дисциплины в некоторых кружках, неаккуратную явку на занятия, как слушателей, так иногда и самих руководителей.

Руководители кружков отметили не вполне удовлетворительный подбор слушателей, что затрудняет правильное ведение работы кружков. Кроме того, старостаты и руководители высказались за необходимость открытия долгосрочных курсов для укрепления знаний окончивших курс Кружков Первой Помощи.

Останавливаясь на отмеченных дефектах в работе кружков, т. Шейман указал, что организация Кружков Первой Помощи является для Окружного Комитета делом новым и что в дальнейшем все отмеченные дефекты, по мере возможности, будут устранены; что же касается отсутствия литературы, то за неимением достаточных средств у Комитета слушателям кружков придется приобретать литературу за свой счет; Окружной Комитет может выделить литературу только для безработных и более нуждающихся кружков. Необходимо, чтобы старостаты и руководители были заинтересованы в проведении общей красно-крестной работы, принимали участие в вербовке членов Кр. Креста и в оформлении ячеек по предприятиям. Всем слушателям кружков необходимо вступить в Общество Красного Креста, но, конечно, не в обязательном порядке. Необходимо выделить специального корреспондента для освещения в стен. и местной газете работы Кружков Первой Помощи.

Необходимо также, чтобы Кружки Первой Помощи приняли участие в демонстрации в день празднования годовщины Октября.

Заслушав доклад д-ра Лифшица, совещание признало, что компания по организации кружков ведется Гомельским

Окр. Комитетом Красного Креста достаточно энергично. Вместе с тем совещание отметило: что в некоторых кружках меняются руководители кружков, часто нет необходимой организованности в занятиях, что создает перебои в работе и понижает заинтересованность слушателей; что недостаток литературы, перевязочного материала и наглядных пособий не дает возможности занимающимся приобрести практические навыки.

Кроме того, совещание нашло необходимым: 1) ввести в программу кружков ознакомление слушателей с такими работами, как поставка банок, клизмы и компрессов, подкожных впрыскиваний и т. д.;



Гурток Першай Дапамогі ў „Тыдню Абароны" г. Гомля

2) поручить старостату кружков помещать в местной и стенной газетах периодические сведения о работе кружков;

3) поручить комитету разработать план участия кружков 1-ой Помощи в демонстрации в день 10-ой годовщины Октября.

В заключение совещание нашло необходимым организовать более долгосрочные курсы, для чего постановило просить Окружной Комитет ходатайствовать перед ЦК Красного Креста об отпуске средств на этот предмет.

# Праца ў Слуцкім раёне

Пасьля ліквідацыі самастойнай Слуцкай Акругі, чырвона-крыжная праца па Слуцкаму раёну не памяншалася,—наадварот, ёсьць далейшыя дасягненьні. Апошнім часам па раёну былі разасланы спэцыяльныя лісты да ўсіх сельсаветаў і камсамольскіх ячэек, у якіх адзначаны мэты Чырвонага Крыжу і дана рада, як арганізоўваць яго ячэйку. Пасьля гэтага т. *Басінкевіч* разам з доктарам *Гершановічам* выяжджалі па вёсках і чыталі лекцыі аб Чырвоным Крыжу і праводзілі сан. асьветныя гутаркі. У выніку аб'езду пры Беліцкім с.-сельсавеце і ў вёсцы Васілінкі організаваны ячэйкі, а сяляне в. Таробрышчы пастанавілі ўласнымі сіламі збудаваць лазьню, калі РВК выдасьць бясплатна лес. Слуцкі Рай Камітэт паслаў адкрыўшымся вясковым ячэйкам аптэчкі і падтрымаў прад раённым Земаддзелам хадайніцтва гарадзішчан аб выдачы ім лесу на будоўлю лазьні



Калёна Гурткоў Першай Дапамогі пад час удзелу ў дэманстрацыі 10-ай гадавіны Кастрычнікавай Рэвалюцыі ў Менску.

У дэманстрацыі прыймала удзел звыш 500 сяброў ад 42 Гурткоў Першай Дапамогі.

# ХРОНІКА

## У Цэнтральным Камітэце

○ У сучасны момант Ц. К. Бел. Т-ва Чырв. Крыжу разьвівае значную чыннасьць па здабываньні пэнсыі і грашовых сум ад амэрыканскага ўраду за тых беларусаў, якія служылі ў амэрыканскім войску і памерлі ў Амэрыцы. Гэтых спраў ужо паступіла больш 100, з якіх каля 60 знаходзяцца ў стадыі навядзеньня даведак аб тым, дзе і як загінулі родзічы падаўшых заяву. Каля 60% усіх заяў паступіла з Менскай акругі, што сьведчыць аб добра пастаўленай інфармацыі раённых камітэтаў Чырвонага Крыжу.

○ Згодна пісьма Выканкому Чырвоных Крыжоў і Паўмесяцаў СССР,— Ц. К. пастанавіў прыняць на сябе распаўсюджаньне курортных мейсц, пры варунку перадачы ўсяе гэтае справы на БССР пад распараджэньне Ц. К.

○ На адбыўшайся 25-27 верасьня г/г у Тыфлісе III Сэсыі Савету Чырвоных Крыжоў і Паўмесяцаў, дэлегатам ад Беларускага Т-ва Чырвонага Крыжу быў *М. І. Барсукоў*—Старшыня Ц. К. На паседжаньні 27 верасьня т. *Барсукоў* зрабіў дэтальную справаздачу аб дзейнасьці Беларускага Чырвонага Крыжу з першага часу яго заснаваньня да 1/X—1927 г. Гэтая справаздача выдана Ц. К. асобнай брашурай.

○ На адбыўшыхся ў кастрычніку Зьездах жанчын БССР, ад ЦК выступалі з дакладамі—Старшыня Ц. К. т. *Барсукоў* і Нам. Старшыні т. *Цьвікевіч.* На азначаных Зьездах выявілася вялікая зацікаўленасьць працоўных жанчын працай і задачамі Чырвонага Крыжу.

○ На адкрытую Ц. К. Школу мэдычных сясьцёр падана звыш 550 заяў. З гэтага ліку ад асоб, якія стала пражываюць у Менску, падана заяў каля 400,—рэшта паступіла з розных акруг БССР.

○ Шляхам беспасрэднай згоды паміж Ц. К. і Ленінградзкім Табачным Трэстам ліквідавана прэтэнзыя апошняга да Беларускага Чырвонага Крыжу ў суме каля 50.000 руб. Абедзьве стораны паразумеліся на суме ў 25.000 руб., у лік якой Трэст атрымлівае ад Ц. К. 2 грузавых аўтамабілі і 1.500 старых аптэчак.

Гэтая ўмова зьявілася апошнім актам ліквідацыі старых даўгоў Беларускага Т-ва Чырвонага Крыжу, якія заставаліся ад 1923-24 году.

○ Паднятая Ц. К. Бел. Т-ва Чырвонага Крыжу ініцыятыва па арганізацыі ў БССР належнага кіраўніцтва і збыта прадуктаў народнай мастацкай вытворчасьці атрымала поўную ўхвалу з боку Наркамгандлю, Эканомнарады і СНК. Згодна пастанове апошняга арганізацыя гэтае справы даручана Беларускаму Саматужна-Прамысловаму Саюзу і вызначаны зваротны капітал у суме каля 30.000 руб.

○ Усяго за мінулы час у фонд Ц. К. па дапамозе пацярпеўшым ад навальніцы ў БССР паступіла ад братніх арганізацый 2700 руб.: ад Украінскага Чырвонага Крыжу—2000 руб., ад Айзербэйджанскага Чырвонага Паўмесяцу—500 руб. і ад Узьбекскага Чырвонага Паўмесяцу – 200 руб.

○ Пасланы ў Мазыршчыну атрад Ц. К. для лячэньня хваробы вачэй

зрабіў сярод сялянства вялікую працу. Д-рам *Лосевым* абсьледавана 4529 ч., праз амбуляторны прыём прайшло 2257 чал., апэрацый зроблена - 62. Апроч таго ім-жа арганізавана 3 гурткі першай дапамогі сярод сялян Хойнікскага і Брагінскага С/С., прачытана 7 лекцыяў, і арганізаваны 1 РайКамітэт Чырвонага Крыжу і некалькі ячэек.

○ Лік членаў Чырвонага Крыжу на транспарту ўсьцяж узрастае і дасягнуў ужо 1000 чал. Найбольш чыннымі зьяўляюцца ячэйкі на ст. Бярэзіна, Зах. Чыгунак (*Д-р Былінскі*) і пры Дорпрофсожу Зах. Чугунак у Гомлі.

○ Пад час Кастрычнікавых сьвят Ц. К. выдаў з сваіх сум 400 руб., якія пераслаў Акруговым Камітэтам дзеля прэміраваньня лепшых сантроек на вёсцы і дзеля ўзмацненьня сувязі іх з працай Чырвонага Крыжу на мясцох. Справаздачы аб прэміях і аб выніках іх будуць надрукаваны ў чарговым нумары „Бюлетэня“.

○ У зьвязку з сьвятам 10-цігодзьдзя Кастрычніка Ц. К па хадайніцтву Нар. Кам. Унутраных Спраў асыгнаваў 150 руб. для выдачы дапамогі амністыраваным пры Менскім і Чэрыкаўскім Допр'ы.

○ 8 лістапада б/г. у зьвязку са сьвятам Кастрычніка пры Ц. К. адбыўся таварыскі вечар, прысьвечаны адкрыцьцю школы мэдычных сясьцёр. На вечары былі прысутны прадстаўнікі ад Мэдпрацы, БДУ і ад Менскага Т-ва Дактароў.

○ Ад скончыўшых курс Гурткоў Першай Дапамогі пры ўпраўленьні Заходніх Чыгунак у Гомелі, Ц. К. атрымаў наступную тэлеграму:

„Урачысты сход слухачоў, скончыўшых курс Гурткоў Першай Дапамогі ячэйкі Чырвонага Крыжу пры Ўпраўленьні Заходніх Чыгунак пасылае гарачае прывітаньне Ц. К. Бел. Т-ва, які дае магчымасьць насельніцтву падрыхтавацца ў вайскова-санітарным адносшаньні і ліквідаваць санітарную няпісьменнасьць шляхам арганізацыі Гурткоў Першае Дапамогі“.

○ Згодна пастанове Ц. К. ад 18 лістапада б/г. пры Горацкай Сел.-Гаспадарчай Акадэміі арганізуецца Зубная Амбуляторыя для студэнтаў. Амбуляторыя арганізуецца па апошняму слову тэхнікі, пры чым на заняцьце мейсца кіраўніка яе абвешчаны спэцыяльны конкурс. Як паведамляюць з Горак студэнцтва сустрэнула пастанову Ц. К. з вялікім задавальненьнем, бо патрэба ў зубной дапамозе сярод яго вельмі значная.

○ Ц. К. Бел. Т-ва Чырвонага Крыжу пераслаў у Вільню для беларускіх школ 100 плякатаў: „Памятка дзецям ад Бел. Чырвонага Крыжу—Як трэба жыць, каб здаровым быць“. Плякаты пераслалы праз д-ра *С. Багоцкага* ў Бэрне.

○ Прадстаўнік Таварыстваў Чырвонага Крыжу і Паўмесяцаў СССР т. *Багоцкі* організуе ў Швэйцарыі пры Міжнародным Камітэце Чырвонага Крыжу выстаўку экспанатаў і дыяграм, якія сьведчуць аб дасягненьнях савецкіх Чырвоных Крыжоў і Паўмесяцаў за апошнія гады.

○ Ц. К. Бел. Т-ва выслаў т. *Багоцкаму* на выстаўку ўсе сваі выданьні, „Бюлетэнь“, плякаты і адпаведны матар'ял для дыяграм.

## 3-ж гадовая школа мэдычных сясьцёр

21-га Кастрычніка 1927 году Бюро Ц. К. Беларускага Т-ва Чырвонага Крыжу, улічваючы з аднаго боку недахоп сясьцёр наогул, а з другога—ня зусім вялікую кваліфікацыю ў большасьці працуючых сясьцёр, вынесла пастанову аб адчыненьні ў Менску Школы Мэдычных сясьцёр.

Школа мае мэтай падрыхтаваць кваліфікаваных мэдычных сясьцёр, якія-б маглі сьвядома выпаўняць даручаную працу і якія павінны ўладаць добрай тэхнікай па дагляду за хворымі і раннымі.

Прыём у школу праводзіцца ў пачатку навучальнага году. Прымаюцца жанчыны ад 18-ці да 35-ці год, з адукацыяй па курсу сямёхгодкі, фізычна здаровыя. Норма на першым сяместры ўстаноўлена ня звыш 80-ці чалавек.

Курс навучаньня 3-х гадовы з падзелам кожнага году на два сяместры.

Навучальны плян школы гэткі:

**І-ы сяместр**. (17 тыдняў). Тыднёвая нагрузка 38 гадзін.

1) Анатома-фізіолёгічны комплекс з гісталёгіяй; 2) Фізыка; 3) Хімія; 4) Тэхніка агульнага дагляду; 5) Грамадазнаўства; Лацінская мова; 7) Беларуская мова; 8) Фізкультура.

**ІІ сяместр**. (17 тыдняў). Тыднёвая нагрузка 38 гадзін

1) Біолёгія; 2) Паталёгічная фізіолёгія з паталёгічнай анатоміяй; 3) Лекарстваэнаўства з лацінскай мовай; 4) Тэхніка агульнага дагляду; 5) Грамадазнаўства; 6) Беларуская мова; 7) Фізкультура.

**ІІІ сяместр**. (17 тыдняй). Тыднёвая нагрузка 38 гадзін.

1) Бактэрыялёгія; 2) Лябараторная тэхніка; 3) Агульная гігіена; 4) Асноўныя веды аб унутраных хваробах з даглядам; 5) Увядзеньне ў хірургічны дагляд; 6) Дэсмургія; 7) Грамадзнаўства; 8) Беларуская мова; 9) Фізкультура.

**IV сяместр**. (17 тыдняў). Тыднёвая нагрузка 38 гадзін.

1) Сацыяльная гігіена; 2) Асноўныя веды аб заразных хваробах з даглядам; 3) Дагляд пры унутраных хваробах; 4) Асноўныя веды па хірургічных хваробах з даглядам; 5) Грамадазнаўства; 6) Беларуская мова; 7) Фізкультура.

**V сяместр**. (17 тыдняў). Тыднёвая нагрузка 38 гадзін.

1) Сацыяльная гігіена (мэтодыка санасьветы); 2) Дагляд пры заразных хваробах; 3) Асновы фізыё-тэрапіі; 4) Асноўныя веды аб рэнтгеналёгіі; 5) Асноўныя веды па акушэрству і жаночых хваробах з даглядам; 6) Барацьба з баявымі атручваючымі газамі і дапамога атручаным; 7) Структура Чырвонага Крыжу і вайскова-санітарная тактыка; 8) Першая дапамога; 9) Грамадазнаўства; 10) Фізкультура.



Паказальная лекцыя Гуртка Першай Дапамогі гор Віцебска.

**VI сяместр.** (17 тыдняў). Тыднёвая нагрузка 38 гадзін.

1) Асноўныя веды па скурна-вэнэрычных хваробах з даглядам; 2) Асноўныя веды па дзіцячых хваробах з даглядам і воспа-шчапленьнем; 3) Асноўныя веды па вочных хваробах з даглядам; 4) Асноўныя веды па хваробах: вуха, горла і носа з даглядам; 5) Асноўныя веды па нэрвовых і псыхічных хваробах з даглядам; 6) Дагляд пры ўнутраных хваробах; 7) Дагляд пры хірургічных хваробах; 8) Грамадазнаўства; 9) Фізкультура.

Кіраўніцтва ўсім навучальным і адміністрацыйна-гаспадарчым жыцьцём школы ляжыць на Дырэктару школы.

Перавод слухачоў з сяместра на сяместр адбываецца ў канцы кожнага сямэстра згодна пастановы школьнай рады, якая складаецца з Дырэктара школы—ён жа Старшыня рады, прадстаўнікоў ЦК Чырвонага Крыжу, НК Аховы Здароўя, усіх настаўнікаў школы і па аднаму прадстаўніку ад кожнага сямэстра слухачоў (а на першае паўгодзьдзе ў колькасьці 3-х чалавек), прадстаўнікоў ЦП Саюзу Мэдсанпрацы і прадстаўніка Жанаддзелу.

Для ўнутранай сувязі слухачоў дзеля ўстанаўленьня таварыскай дысцыпліны і палепшаньня быту слухачоў, арганізуецца школьнае самакіраўніцтва слухачоў з Прафкомам школы.

Сродкі школы на першы год складаюцца з сродкаў, асыгнаваных Цэнтральным Камітэтам Беларускага Т-ва Чырвонага Крыжу па каштарысу, які зацьверджаны на 1928 год арыентыровачна ў суме 18.000 руб.

Для слухачоў арганізавана агульнае памяшканьне на Загараднай вул. Для матар'яльна незабясьпечаных устаноўлена 30 стыпэндый па 20 руб. у месяц кожная.

На сёлетні навучальны год мейсцы для паступаючых у школу разьмеркаваны гэтак: Віцебскай акрузе — 10 мейсц і 4 стыпэндыі, Гомельскай акрузе—10 мейсц і 4 стыпэндыі, Аршанскай—5 мейсц і 2 стыпэндыі, Полацкай—4 мейсцы і 2 стыпэндыі, Магілеўскай—3 м. і 1 стыпэндыя, Бабруйскай—7 м і 3 стыпэндыі, Мазырскай—4 м. і 2 стыпэндыі, Менскай—10 мейсц і 5 стыпэндыі. У распараджэньні ЦК—27 мейсц і 7 стыпэндый Усяго 80 мейсц і 30 стыпэндый.

У Цэнтральны Камітэт Чырвонага Крыжу ад жадаючых паступіць у школу падана 560 заяў, ня лічучы заяў, якія паданы па акругах.

Дырэктар Школы Д-р. **С. Яфім'яў.**

## Па зьездах і конфэрэнцыях

**Мазыр.** На 2-м Акруговым Зьезьдзе жанчын-грамадчыц Мазырскае Акругі быў зроблены даклад аб дзейнасьці Чырвонага Крыжу. Прынята наступная рэзалюцыя:

„Зьезд надае вельмі вялікую ўвагу рабоце Таварыства Чырвонага Крыжу, асабліва пры сучасным міжнародным становішчы і лічыць неабходным прыцягненьне ўсёй масы мэдпрацоўнікаў да актыўнага ўдзелу ў правядзеньні чырвона-крыжнай працы па вайсковасанітарнай падрыхтоўцы насельніцтва, па санітарнаму аздараўленьню вёскі і г. д.

У мэтах утварэньня ўмоў па барацьбе з атрутымі газамі, Акр. Інспэктарыяту Аховы Здароўя сумесна з Акруговым Камітэтам Чырвонага Крыжу тэрмінова распачаць працу па падрыхтоўцы кадра дактароў у гэтым напрамку, належна прыстасаваўшы да гэтага маючыяся лекавыя ўстановы.

Акруговы Зьезд жанчын-грамадчыц заклікае ўсіх працоўных, асабліва жанчын, прыняць актыўны ўдзел у працы Т-ва Чырвонага Крыжу, шырока папулярызуючы яго ідэі, мэты і задачы, дапамагаючы стварэньню новых ячэек Чырвонага Крыжу і Гурткоў Першай Дапамогі".

(Вынятка з рэзалюцыі 2-га Мазырскага Акруговага Зьезду жанчын-грамадчыц).

---

# ОФІЦЫЯЛЬНЫ АДДЗЕЛ

## РЭЗАЛЮЦЫЯ

**па дакладу аб дзейнасьці Беларускага, Грузінскага, Украінскага Т-в Чырвонага Крыжу і па інфармацыйнаму паведамленьню Армянскага Чырвонага Крыжу.**

25-27-XI-1927 г. у Тыфлісе адбылася чарговая III-я Сэсія Таварыстваў Чырвоных Крыжоў і Паўмесяцаў СССР. На гэтай Сэсіі былі заслуханы даклады: Беларускага *(Барсукоў)*, Грузінскага (*Кікалішвілі*), Украінскага (*Лінькічэнка*) Таварыстваў Чырвонага Крыжу аб іх дзейнасьці ад II-й да III-й сэсіі і інфармацыйнае паведамленьне Армянскага Чырвонага Крыжу. Па гэтым дакладам сэсія пастанавіла:

1) Агульную лінію працы гэтых арганізацый лічыць правільнай і канстатаваць далейшы рост ліку членаў Таварыстваў, узмоцнены інтарэс шырокіх рабоча-сялянскіх мас да дзейнасьці названых членаў Саюзу, поўнасьцю перайшоўшых да сыстэмы выбарнасьці сваіх кіраўнічых органаў у цэнтры і на мясцох.

2) Т-вамі праароблена значная праца па падрыхтоўцы і выяўленьні іх актыву, які пачынае разьвіваць вялікую самадзейнасьць, практычныя вынікі якой асабліва зазначыліся на вёсцы, дзе названыя арганізацыі пашырылі сваю працу, галоўным чынам, па лініі лячэбна-санітарнай і агульных аздаравіцельных мерапрыемстваў.

3) У часьці вайскова-санітарнай Таварыствамі ўзяты правільны курс на шырокую арганізацыю Гурткоў і Дружын Першай Дапамогі, якія зьяўляюцца асноўнымі элемэнтамі працы Чырвон. Крыж. па абароне Савецкага Саюзу.

4) Сувязь Таварыстваў з замежнымі Т-вамі Чырвонага Крыжу значна пашырылася.

5) Адначасна з гэтым Сэсія лічыць неабходным рэкамэндаваць названым Таварыствам:

а) Пасіліць ахват шырокіх мас працоўных шляхам залучэньня іх у склад Таварыстваў, прыцягваючы адпаведныя кадры рабочых і сялян у Гурткі Першай Дапамогі, лік якіх

трэба значна павялічыць ня толькі ў гарадзкіх, але і ў вясковых раёнах. У працы па вайскова-санітарнай падрыхтоўцы працоўных патрэбна кіравацца дырэктывамі сучаснай Сэсіі, пры чым асыгнаваньні на гэта павінны быць павялічаны.

б) Далей весьці шырокую прафілактычную работу па аздараўленьні быта працоўных, узгадняючы яе з вайскова-санітарным плянам і агульнай лініяй Нар. Кам. Аховы Здароўя. У гэтую працу патрэбна ўсё больш уцягваць шырокія колы савецкай грамадзкасьці, выкарыстоўваючы для папулярызацыі Таварыстваў у першую чаргу пэрыядычную прэсу.

в) Прыняць меры да павялічэньня матар'яльных і грашовых паступленьняў па бюджэтах, стымулюючы самадзейнасьць нізавых ячэек Т-ваў, адначасна скарачаючы адміністрацыйна-арганізацыйныя выдаткі. У мэтах узмацненьня фінансавай дысцыпліны і ажыўленьня грамадзкай самадзейнасьці пашырыць кампанію справаздачнасьці кіраўнічых органаў і рэвізыйных камісій у цэнтры і на мясцох.

б) Адзначыць з задавальненьнем вялікую працу, якую прарабіла Армянскае Т-ва Чырвонага Крыжу ў галіне дапамогі пацярпеўшым ад землязрушаньня ў Ленінкане.

---

## Да ўсіх рабочых, работніц і служачых чугунак БССР

*Дарагія Таварышы!*

Беларускае Таварыства Чырвонага Крыжу зьяўляецца грамадзкай арганізацыяй рабочых і сялян БССР і мае сваёй мэтай дапамогу Чырвонай Арміі і насельніцтву, як пад час міру, так асабліва пад час вайны.

Пад час міру Беларускі Чырвоны Крыж вядзе самую рознастайную працу: прыцягнуўшы ў свой склад тысячу сяброў, ён вядзе барацьбу за здаровы быт сярод рабочых гораду і сялян на вёсцы. Памагае будаваць добрыя лазьні і студні, адчыняе пры фабрыках і сельсаветах санітарныя гурткі, пасылае літаратуру, плякаты і лістоўкі аб тым, што трэба рабіць, каб здаровым быць, дапамагае адчыняць дзіцячыя яслі і пляцоўкі, пасылае ў глухія куткі Беларусі перасоўныя Зубныя і Вэнэролёгічныя Габінэты і г. д. Зьяўляючыся масавай грамадзкай арганізацыяй Беларускі Чырвоны Крыж у варунках спакойнага часу працуе ў цеснай сувязі з Народным Камісарыятам Аховы Здароўя, але пераважна ня лечыць хваробы, а клапаціцца, каб зьнішчаць прычыну яе. Праца яго ў гэтым напрамку і карысна і важна.

Аднак, асаблівай вагі набірае праца Беларускага Т-ва Чырвонага Крыжу пад час вайны.

Як ведама—нашая соцыялістычная краіна ССР ня хоча вайны і ўсімі мерамі супроць яе змагаецца. Яна хоча мірна будаваць сваё жыцьцё, забясьпечваць дабрабыт сваіх рабочых—сялян. Аднак капіталістычны сьвет Заходняй Эўропы, не згаджаецца з фактам узросту першай пролетарскай дзяржавы і бязупынна падрыхтоўвае аружны напад на яе.

Трэба ведаць, што раней ці пазьней, але вайна будзе. Мы павіны быць гатовы да яе.

Што мае рабіць Чырвоны Крыж пад час вайны?

Заданьні яго вялізарны:

**Чырвоны Крыж**—організуе дапамогу раненаму і хвораму чырвонаармейцу.

**Чырвоны Крыж**—дапамагае насельніцтву, якое церпіць ад вайны ў прыфронтавай паласе.

**Чырвоны Крыж**—адчыняе прытулкі для бежанцаў, сталоўкі для галодных, даглядае, каб ня гінулі бяспрытульныя дзеці, не пашыраліся хваробы і пошасьці.

Апрача таго ў сілу міжнародных умоў (Жэнэўская Конвэнцыя 1864 г.), на Беларускі Чырвоны Крыж, разам з іншымі Чырвонымі Крыжамі СССР, накладваецца пад час вайны адказны абавязак дапамогі вайскова-палонным.

Таварышы-чугуначнікі!

Вы ўсе памятаеце тыя цярпеньні і мукі, якія прынесла мінулая імпэрыялістычная вайна. Вы памятаеце, колькі мілёнаў людзей яна загубіла, колькі дзесяткаў і сотняў тысяч пакалечаных няшчасных і бяспрытульных яна па сабе пакінула.

Наступная вайна з буржуазна-капіталістычным сьветам будзе ў шмат разоў цяжэйшая. Нам трэба быць добра організованымі, каб абараніцца ад яе жахаў.

Позна будзе організоўвацца, калі полымя вайны ахопіць нашыя гарады і вёскі, калі пачнуць грахатаць пушкі.

Каб падгатаваць сябе на выпадак вайны, каб мець менш ахвяр трэба сёньня-ж уступіць у шэрагі Чырвонага Крыжу.

Беларускае Т-ва Чырвонага Крыжу мае ў сучасны момант шмат тысячаў сяброў, якія ўтвараюць Гурткі Першай Дапамогі і якія прымуць на сябе вялікую працу дапамогі Чырвонай Арміі і насельніцтву па гарадох і вёсках БССР. Аднак сярод сяброў Т-ва вельмі мала рабочых і служачых чугунак БССР.

Вы самі ведаеце, якое значэньне набываюць чугункі ў момант вайны. Можна з пэўнасьцю сказаць, што ў гэты момант яны—нэрв усяго жыцьця. Па чугунках перадзьвігаецца армія, па ёй ідзе хлеб, вайсковыя і санітарныя прыпасы, перасоўваюцца тысячныя масы палонных, бежанцаў і г. д.

Па чугунках найбольш мэтазгодна і лягчэй за ўсё організоўваць рэгістрацыйныя і харчавальныя пункты, сталоўкі

прытулкі, пункты першай санітарнай дапамогі, ахову дзяцей і г. д.

Усё гэтае Беларускі Чырвоны Крыж здолее на сябе прыняць і нарыхтаваць толькі пры тым варунку, калі ў яго складзе будзе адпаведны лік сяброў-рабочых і служачых чугункі. На кожнай станцыі, на кожным участку і пры кожным мясцкому павінна быць створана ячэйка Чырвонага Крыжу, якой у выпадку вайны і будзе даручана выкананьне паказаных вышэй адказных задач.

Калі на транспарце БССР будзе масавая падгатаваная чырвона-крыжная організацыя, з добрымі кіраўнікамі і супрацоўнікамі, дык у адзін дзень яе можна будзе паставіць да працы, як толькі надзьвігнецца пагроза вайны.

А што рабіць ячэйкам Чырвонага Крыжу па чугункам у мірны, спакойны час?

І ў гэты час карысная і цікавая праца для яе знойдзецца. Яна можа прайсьці курсы першай мэдычнай дапамогі пры няшчасных здарэньнях, організаваць дзіцячы сад, гарачы полудзень і вінтыляцыю ў школе, здабыць і раздаць санітарную літаратуру, збудаваць студню ў бліжэйшай вёсцы, зьвязаўшыся дзеля гэтага з сялянствам, удзельнічаць сваім сан-гуртком у манэўрах Чырвонай Арміі і г. д Карысная праца заўсёды знайдзецца—трэба толькі, каб знайшліся жывыя і актыўныя таварышы.

Апошніх трэба асабліва знайсьці паміж работніц і нагогул сярод жаночага насельніцтва на чугунках. Працоўнай жанчыне ў Чырвоным Крыжу належыць адно з першых мейсц. У выпадку вайны ў яе рукох будзе клопат аб раненым і хворым чырвонаармейцу, організацыя сталоўкі і прытулку, абарона дзяцей ад загібелі. У спакойны час—жанчына лепш за каго іншага заўважыць, дзе патрэбна ініцыятыва і дапамога Чырвонага Крыжу.

Таварышы работнікі і работніцы чугунак БССР, таварышы служачыя і жанкі! Беларускі Чырвоны Крыж чакае Вас у свае шэрагі! Зацікаўцеся справай, склікайце сходы, закладайце Чырвонакрыжныя ячэйкі. Зьвязвайцеся праз свае мясцкомы з іншымі службамі і пры Ўчпрафсожах утварайце Ўчастковыя Камітэты.

Усе патрэбныя інфармацыі і літаратуру вам вышле Цэнтральны Камітэт Беларускага Т-ва Чырвонага Крыжу, які зьмяшчаецца ў Менску, вул. Карла Маркса, № 3 і да якога вы можаце зварачвацца па ўсіх пытаньнях.

Старшыня Цэнтральнага Камітэту Беларускага
Таварыства Чырвонага Крыжа *М. Барсукоў.*
Нам. Старшыні ЦК *А. Цьвікевіч.*
Адказн. Сэкратар *І. Фрыдман.*

---

# У СУСЕДНІХ ТАВАРЫСТВАХ

## Туркмэнскае Т-ва Чырвонага Паўмесяца

Мэдычны атрад Туркмэнскага Т-ва Чырвонага Паўмесяца абсьледваў 15 Туркмэнскіх кішлакоў Коркінскае акругі. Дзеля збору матар'ялаў атрад ужываў выбарачны анкетны допыт замужніх туркмэнак, гутарку з імі, з тэбібамі (знахарамі), мулламі і наогул з насельніцтвам, рабіў санітарнае абсьледваньне, фота-здымкі і г. д. Асноўны матар'ял атрыманы з допыту 141 туркмэнкі паводле анкеты двох тыпаў. Параўнаўча невялікі лік апытаных жанчын тлумачыцца цяжкасьцю наведваньня іх у зьвязку з мясцовымі звычаямі.

Азначаныя ў анкеце адмоўныя асаблівасьці палавога разьвіцьця (спозьненая палавая дасьпеласьць, дачасныя шлюбы, абсалютная плоднасьць) і прадчасовая слабасьць арганізму цесна злучаны з бытавымі і культурна-гаспадарчымі асаблівасьцямі жыцьця ў кішлаку і на гаспадарцы дэхканіна. Апроч апрацоўкі зямлі, амаль усю працу выконвае жанчына, ня гледзячы на тое, што яна дрэнна сыціцца і жыве ў антыгігіенічных варунках. Усе гэтыя прычыны выклікаюць вялікую сьмяротнасьць жанчын-туркмэнак у пэрыядзе палавое сьпеласьці, у выніку чаго ў Туркмэністане, згодна перапісу, жанчын шмат менш за мужчын.

Ня гледзячы на плоднасьць жанчыны, туркмэнская сям'я малалічная, бо дзіцячая сьмяротнасьць вельмі высокая. Анкета выявіла, што з агульнага ліку жывароджаных к канцу першага году памёрла 36,5%. Важнейшыя прычыны сьмерці дзяцей—сыфіліс, воспа і жалудачныя хваробы, зьвязаныя з няправільным кармленьнем. Немалаважнае значэньне ў дзіцячай смяротнасьці мае і малярыя.

Даныя досьледу гавораць аб буйным убытку насельніцтва галоўным чынам жаночага і дзіцячага, што пагражае будучыне туркмэнскага народу. Дзеля гэтага пытаньне аб ахове мацярынства і дзяцінства павінна зрабіцца цэнтральным пытаньнем савецкага будаўніцтва ў Туркмэністане і прыцягнуць увагу ўсіх грамадзкіх і культурных сіл Рэспублікі.

---

## Па ўсім сьвеце

**Паўночна Амэрыканскія Злучаныя Штаты**. Амэрыканскі Чырвоны Крыж мяркуе, што пашырэньне яго ідэй шляхам радыё зьяўляецца добрым засабам, дзеля ўздыму цікавасьці да справы Чырвонага Крыжу. Дзьве радыё станцыі ўключылі ў сваю вячэрнюю праграму гутарку па пяць хвілін аб хатняй гігіене Пад час гутаркі было зазначана, што зацікаўленыя гэтым пытаньнем могуць зьвяртацца да Бюро Чырвонага Крыжу. Гэтыя спробы мелі такі посьпех, што Чырвоны Крыж арганізаваў шэраг гутарак аб кармленьні хворых, аб дзіцячай гігіене, доглядзе за хворымі, прафілактыцы і г. д.

**Нямеччына.** *Чырвоны Крыж і індустрыяльная гігіена.* Жаночы Камітэт Чырвонага Крыжу ў Брандэнбургу чынна займаецца індустрыяльнай гігіенай. Яшчэ у 1924 годзе ён прызначыў санітарку-спэцыялістку па сацыяльнай гігіене для працы сярод работніцкіх сем'яў. 4 галоўных прамысловых прадпрыемстваў прасілі даць ім санітарку і абавязаліся плаціць за гэта штомесячна Камітэту. Галоўнай задачай санітаркі зьяўляецца дапамога хворым, да якіх накіроўвае яе фабрычная адміністрацыя.

**Аўстрыя.** *Продаж паштовак.* Сэкцыя Аўстрыйскага Чырвонага Крыжу Моладзі паведамляе, што ў зьвязку з посьпехам калядных паштовак, якія былі нарысаваны вучнямі клясы маляваньня праф. Сізэк, яна выпушчае новы шэраг паштовак з вясновымі і летнімі пэйзажамі.

**З. Ш. Амэрыкі.** Выстаўка Чырвонага Крыжу Моладзі выклікала вялізную цікавасьць. Гэтая выстаўка складалася з дзьвюх лялек у выглядзе дзяўчынак, абкружаных цацкамі і ўсялякімі рэчамі, якія давалі прадстаўленьне аб мэтах Чырвонага Крыжу Моладзі. Усе рэчы і цацкі былі зроблены сябрамі Чырвонага Крыжу.

**Грэцыя**. Чырвоны Крыж Моладзі організаваў з прычыны 50-годзьдзя Грэцкага Чырвонага Крыжу выстаўку прац сваіх сяброў, якая мела вялікі посьпех.

**Бэльгія.** *Варта Першай Дапамогі на шляхох.* Ужо паведамлялася аб вартах першае дапамогі, якія пастаўлены на

шляхох у Англіі, Францыі і ў Даніі. Бэльгійскі Чырвоны Крыж таксама мяркуе організаваць гэткія варты на шляху з Брусэля ў Астэндэ і на сэктару Ватэрлоо—Брэн—Лаллед—Ніаоль.

**Чэха-Славакія.** За мінулы год Чэха-Славацкі Чырвоны Крыж выдаў тры папулярных падручнікі па вывучэньні гігіены:

1) „Гігіена зубоў"—д-ра Дрымля на чэскай, славацкай, расійскай, нямецкай і вэнгерскай мовах;
2) „Гігіена на грамадзкіх сходах;
3) „Першая дапамога".

**Барацьба з сухотамі ў Польшчы.** За 1926 год у розных гарадох і мясцовасьцях у Польшчы было адчынена 22 тубэркулёзных дыспансэра. Адчыненьне дыспансэраў выклікала яшчэ большую патрэбу ў прафэсыянальна-падрыхтаваных працаўнікох. У зьвязку з гэтым Міністэрства Працы і Сац. Дапамогі адчыніла некалькі адпаведных ку саў у Варшаве і ў правінцыі.

**Міжнародны кангрэс вайсковай мэдыцыны і фармацэўтыкі.** IV кангрэс вайсковай мэдыцыны і фармацэўтыкі адбыўся ў Варшаве на працягу ад 30 травеня да 5 чэрвеня. На кангрэс зьехаліся прадстаўнікі 31 краіны, а таксама прадстаўнікі Міжнароднага К-ту Чырвоных Крыжоў і Лігі Чырвоных Крыжоў. Некаторыя нацыянальныя Таварыствы Чырвоных Крыжоў і Чырвоных Паўмесяцаў СССР таксама прыслалі сваіх Прадстаўнікоў. Усяго на кангрэсе сабралася больш за 800 удзельнікаў.

Кангрэс рашыў прыняць запрашэньне Англіі аб скліканьні V кангрэсу ў Лёндане ў 1929 г. і ўхваліў праэкт сталага Камітэту, які будзе кіраваць організацыяй гэтага кангрэсу.

Мэта міжнародных кангрэсаў вайсковай мэдыцыны і фармацэўтыкі, як азначана ў статуце, сьведчыць аб гуманітарным характары задач вайсковай мэдыцыны:

„Утварыць і ўтрымаць братэрскія пачуцьці, якімі трэба, каб былі ахоплены ўсе тыя, задачай якіх зьяўляецца клопат аб раненых і хворых у войску,—незалежна ад яго нацыянальнасьці".

„Палепшыць агульнае вывучэньне, акрэсьліць практычна і тэорэтычна мерапрыемствы, якія маюць на мэце палепшаньне ў кожны час становішча раненых і хворых у войску і распаўсюджваць сярод усіх нацыянальнасьцяў праз ваенных, якія знаходзяцца ў арміі, асновы гігіены і эпідэміалёгіі".

**Сусьветная статыстыка стыхійных няшчасьцяў.** Ад 1 студзеня да 15 ліпеня бяг. году, іменна за пэрыяд ў 196 дзён —на працягу 136 дзён па ўсім сьвеце ўсьцяж здараліся якія-

небудзь стыхійныя заколаты. Наступныя лічбы гаворацъ аб колькасьці ахвяр і страт, якія зьявіліся ў выніку гэтых розных няшчасьцяў.

6971 забіты,
9849 ранных,
4 зусім разбураныя гарады,
55845 разбураных дамоў.

Найбольш значнымі па колькасьці ахвяр і памеры ўбыткаў зьяўляюцца земляўзрушаньні, якіх за гэты пэрыяд было 21. Затым ідуць паводкі, якія таксама выклікалі вялікія матар'яльныя страты; найвялікшай у гэтым годзе была паводка Місісіпі, у часе якой загінула 114 чал. 600.000 чал. былі пазбаўлены даху; матар'яльныя страты ад паводкі дасягнулі 300.000.000 доляраў. У часе паводкі ў Саксоніі 8 і 9 ліпеня згінула 160 чал., а страты дасягнулі сумы ў 80—90 міліёнаў марак.

**Паводка Місісіпі**. Упаўнаважаны Амэрыканскага Чырвонага Крыжу Гэрбэрт Хувэр прадставіў прэзыдэнту П. А. Штатаў Куліджу падрабязны даклад аб памерах няшчасьця, з якога відаць, што дапамога ўраду і фонду дапамогі Чырвонага Крыжу, складаючага каля 17.000.000 доляраў, будзе досыць для здавальненьня патрэб пацярпеўшых ад паводкі Місісіпі да сьнежня 1927 г. Да гэтага часу будзе прадстаўлены плян, як весьці далейшую дапамогу. Хувэр у сваім дакладзе гаворыць таксама аб неабходнасьці пабудаваць каля Місісіпі грэблі, каналы і г. д., каб няшчасьце не паўтарылася ў будучыне. Чырвоны Крыж прадаўжае справу дапамогі пацярпеўшым ад паводкі, дапамагае ўцекачом зьвяртацца да хаты і прымае меры па ахове здароўя насельніцтва ў затопленых мясцовасьцях.

У выніку таго, што шмат уцекачоў зьвяртаюцца назад, Чырвоны Крыж абсталяваў 5.000 хат, якія можна паставіць вельмі хутка і пры найменшых выдатках.

Што датычыць папраўы пашкоджаных дамоў, дык тут Чырвоны Крыж ужывае мэтады, якія ён спробаваў у стыхійным няшчасьці ў Флярыдзе. Грузавыя аўтамабілі з рабочымі, матар'яламі і прыладамі аб'яжджаюць пацярпеўшую мясцовасьць і спыняюцца для папраўы пашкоджаньняў.

У адбудоўчую праграму Чырвонага Крыжу ўваходзіць таксама пераноска будынкаў, якія стаяць уздоўж Місісіпі, на больш высокае месца. Чырвоны Крыж мае таксама на мэце ачысьціць горад Мельвіль, якія засыпаны пяском. Агульны санітарны стан пацярпеўшых—нармальны, небясьпека эпідэміі зусім ліквідавана.

**Канада**. *Чырвоны Крыж і эмігранты*. Сем'ям эмігрантаў, якія прыяжджаюць у Канаду, раздаюць картачкі, у каторых ім прапануюць зьвязацца з аддзеламі грамадзкай гігіены ці з санітаркамі Чырвонага Крыжу. Гэтыя картачкі надрукаваны на 13 мовах і ў іх зьмешчаны адрасы правінцыяльных сяброў Чырвонага Крыжу, да якіх могуць зьвяртацца эмігранты ў выпадку хваробы сваіх дзяцей.

**Аргэнтына**. Санітарны вагон Міністэрства гігіены, які аб'яжджаў правінцыі Нэкеп і Рыё Нэгро, спыняўся дзеля дапамогі насельніцтву на тэрмін ад 2-х дзён да тыдню, у залежнасьці ад патрэбы. Больш за 600 хворых былі агледжаны, была прывіта воспа 1200 дзецям. Бяднейшаму насельніцтву дарэмна раздаваліся лякарствы, а хворыя, якіх трэба было лячыць, накіроўваліся ў шпіталі і іншыя лекавыя ўстановы Аргэнтыны.

**Польшча**. У пачатку верасьня ў Галіцыі здараліся паводкі, якія прынесьлі украінскаму сялянству і насельніцтву вялікія матар'яльныя страты. На прапанову дапамогі з боку Амэрыканскага Чырвонага Крыжу, Польскі Чырвоны Крыж адказаў, што ён спадзяецца зрабіць усё самастойна і што толькі ў выпадку патрэбы зьвернецца за дапамогай да Амэрыканскага Чырвонага Крыжу.

---

# ФІЗКУЛЬТУРА

## На пленуме Высшего Совета Физкультуры Белоруссии

25-го ноября в помещении клуба Строителей открылся пленум Высшего Совета Физкультуры в присутствии представителей Чехо-Словацкой спортивной организации и Генерального Секретаря Красного Спортивного Интернационала тов. *Каплана*.

На этом-же заседании было вручено знамя физкультурникам Чехо-Словакии от пленума ВСФК.

После выступления представителя Красного Креста тов. *Цвикевича*, которого пленум встретил радушно, пленумом было вынесено постановление о выработке обращения ко всем физкультурникам о вступлении последних в ряды Красного Креста.

Доклад Генерального Секретаря КСИ о задачах международного спортивного движения и итогах последнего пленума Исполкома был выслушан делегатами пленума и физкультурным активом с большим вниманием.

Следует отметить деловые выступления по этому докладу, в которых указывался целый ряд недостатков в интернациональной работе белорусской организации, отмечались достижения в отдельных секциях КСИ и правильная политика Исполкома КСИ по руководству международным рабочим спортивным движением.

Пленумом был заслушан доклад Белорусского Военного округа о военной работе, доклад о работе в деревне, о зимнем празднике физкультуры.

Очевидно, что вопросы военизации физкультуры привились физкультурной организации. Уже указывался и отмечался целый ряд достижений в области военизации. За небольшое время от декабрьского пленума, где впервые во всю ширь был поставлен вопрос о военизации, есть заметные до-

стижения и во всяком случае четкое понимание роли военизации физкультуры.

Белоруссия может гордиться некоторым опытом в деревенской работе по физкультуре. Сейчас доклад стоял не в плоскости необходимости продвижения физкультуры в деревню, но в плоскости определения окончательных форм всей работы по физкультуре в деревне.

Зимний Праздник Физкультуры в этом году особо знаменателен тем, что он является подготовкой к Всемирной Спартакиаде в Норвегии.

Пленум прошел исключительно в деловой обстановке, при участии большинства работников физкультуры Минска и ведомств, кроме НКПроса, несмотря на то, что в докладах очень много говорилось по поводу деятельности НКПроса в области физкультуры по его линии.

---

## Рэзалюцыя пленуму ВСФБ

На адбыўшымся 20-27 лістапада пашыраным пленуме Вышэйшага Савету Фізкультуры была прынята наступная рэзалюцыя аб больш цеснай сувязі паміж Фізкультурай Беларускім Т-вам Чырвонага Крыжу.

Прымаючы пад увагу, што паміж абедзьвема арганізацыямі-Фізкультурай і Чырвоным Крыжам ёсьць агульныя мэты ў барацьбе за здароўе працоўных, што як Фізкультура, так і Чырвоны Крыж—кожны па сваёй галіне імкнецца захаваць для сацыялістычнага будаўніцтва і абароны Рэспублікі моцнае, фізычна-здаровае і энэргічнае працоўнае жыхарства і моладзь, што Беларускае Т-ва Чырвонага Крыжу заўсёды ідзе з дапамогай Вышэйшаму Савету і акруговым арганізацыям Фізкультуры,—пашыраны пленум Вышэйшага Савету Фізкультуры пастанаўляе:

1) Зьвярнуць увагу ўсіх акруговых і раённых арганізацый фізкультуры на патрэбу калектыўнага ўступленьня ў склад Беларускага Т-ва Чырвонага Крыжу.

2) Прызнаць патрэбным, каб кожная акруговая і раённая арганізацыя Фізкультуры дэлегавала для сталай сувязі свайго прадстаўніка у Акруговыя і Раённыя Камітэты Чырвонага Крыжу.

3) Зьвярнуць увагу ўсёй масы фізкультурнікаў БССР на патрэбу ўваходжаньня іх у шэрагі сяброў Беларускага Чырвонага Крыжу і самага актыўнага супрацоўніцтва ў ім, асабліва па лініі барацьбы за здаровы быт рабочай і сялянскай моладзі і абслугоўваньня патрэб піянэраў.

4) Прызнаць патрэбным, каб ВСФК у самы бліжэйшы час, паразумеўшыся з ЦК Чырвонага Крыжу, прыняў праграму і час правядзеньня спэцыяльнага тыдню пад лёзунгам: *„Кожны фізкультурнік Савецкае Беларусі павінен быць сябрам Беларускага Чырвонага Крыжу“*.

5) Выказаць пажаданьне, каб Беларускае Т-ва Чырвонага Крыжу як дацяпер, так і на будучыню прыходзіла з дапамогай фізкультурнаму руху ў БССР“.

## Правительство о физкультуре

Постановлением Совнаркома предложено НКПросу и Высшему Совету Физкультуры подготовить вопрос к созданию с будущего учебного года первого Техникума Физкультуры в Белоруссии. По предварительным данным Техникум этот будет расчитан, с одногодичным курсом, на 50 человек. Из Москвы приедут для работы в Техникуме видные специалисты по вопросам физкультуры. Целый ряд работников БГУ будут также использованы для работы в Техникуме.

Тем же постановлением Совнаркома предложено НКЗему и ВСФК заняться вопросом постройки в Минске Центрального Стадиона Всебелорусского значения и Дома Физкультуры.

В директивах правительства по вопросу о физкультуре была также отмечена необходимость составления 5-ти-летнего строительного плана по физкультуре, дана директива о росте за счет взрослых рабочих, об углублении работы по военизации физкультуры, а также предложено ВСФК просмотреть положение о Советах с целью уточнения и расширения руководящих прав последних.

### Хроника

О На президиуме ВСФК было утверждено положение об антропометрических кабинетах, в которых предусмотрено количество физкультурников, обслуживаемых одним врачем, вопрос о средствах и целевой установке антропометрических кабинетов в их работе по научному контролю над физическими упражнениями.

О На Научно-Методическую Конференцию в Москву от ВСФК делегирован Зав. антропометрическим кабинетом гор. Минска д-р Гуревич.

О В первых числах декабря предполагается обще-городской физкультурный вечер, на котором будут продемонстрированы все виды физкультуры с обширной программой. Вечер предполагается организовать в пользу трех Мировых Спартакиад.

# Палажэньне і праграма 4-га зімовага Усебеларускага Сьвята Фізычнае Культуры Беларусі

**Агульнае палажэньне.** Зімовае Сьвята ахоплівае сабою шэраг паасобных сьвятаў ведамственных, раённых, акруговых і Ўсебеларускае.

Сьвята распадаецца на чыста агітацыйную частку (дэманстрацыі, вечары, даклады) і на спаборніцтвы.

**Агітацыйная частка сьвята**. Правядзеньнем дакладаў, вечароў, дэманстрацый. таварышаскіх сустрэч неабходна прадэманстрыраваць ролю фізычнае культуры, нашы дасягненьні пашырыць сувязь фізкультурнай масы з рабочымі і сялянамі, яшчэ не ахопленымі фізкультурным рухам.

Як адзін з мэтадаў агітацыі павінны служыць таварыскія сустрэчы паміж ведамственнымі групамі, паміж вясковымі і гарадзкімі, лыжныя вылазкі гарадзкіх гурткоў у вёсцы і наадварот, зьвёздныя лыжныя прабегі і г. д.

**Спаборніцтвы.** Зімовае Сьвята канчаецца спаборніцтвамі ведамственнымі, раённымі, акруговымі і Ўсебеларускімі. Мейсцам правядзеньня спаборніцтваў: для раённых адзін з раённых асяродкаў, акруговых—акруговы асяродак. Усебеларускі ў г. Менску.

**Час сьвята.** Сьвята ахоплівае сабою пэрыяд 2-й паловы студзеня 1928 г. Час правядзеньня ведамственных, раённых і акруговых сьвятаў апрадзяляецца акруговымі саветамі фізкультуры сумесна з ведамствамі.

Усебеларускае сьвята праводзіцца з 22—27 студзеня 1928 г.

**Форма спаборніцтваў і прадстаўніцтва.** Раённыя спаборніцтвы праводзяцца індывідуальна для мужчын і жанчын, пры чым колькасьць удзельнікаў апрадзяляецца Акруговымі Саветамі фізкультуры.

У акруговых спаборніцтвах прымаюць удзел зборныя каманды ведамстваў у складзе: для лыжных спаборніцтваў—6 мужчын і 6 жанчын, для цяжкай атлетыкі—5 гірэвікоў і 5 барцоў. Спаборніцтвы па канькам праводзяцца індывідуальныя, пры чым колькасьць удзельнікаў апрадзяляецца АСФК, у залежнасьці ад мясцовых умоў.

Усебеларускія спаборніцтвы праводзяцца па прынцыпу прадстаўніцтва зборных каманд акругоў:

а) па лыжам: 3 мужчыны і 3 жанчыны;

б) па цяжкай атлетыцы— 3 гірэвіка і 3 барцы (вага безр.);

в) па канькам—2 мужчыны і 2 жанчыны.

Узрост для ўдзельнікаў спаборніцтваў:

Для лыжнікаў— мужчыны —18 гадоў, жанчыны —17 гадоў.

Барацьба—мужчыны—18 гадоў.

Падняцьце цяжасьцяў – мужчыны – 20 гадоў.

Для канькоў мужчыны—17 гадоў, жанчыны —16 гадоў.

Ніжэй гэтага ўзросту дапушчаны да ўдзелу ня будуць.

У акруговых спаборніцтвах праводзіцца дзяленьне ўдзельнікаў на 2 клясы: старэйшых і малодшых.

Ва ўсебеларускіх спаборніцтвах удзельнічаюць толькі старэйшыя.

У групы старэйшых дапускаюцца да ўдзелу інструктары і памоцнікі ня больш 50%.

У спаборніцтвах для малодшых груп—інструктары, памоцнікі і ўдзельнікі быўшых акруговых альбо Ўсебеларускіх спаборніцтваў не дапускаюцца

**Залік.** Спаборніцтвы праводзяцца:

Раённыя—асабістыя.

Акруговыя і Ўсебеларускія – асабіста-каляктыўныя.

На акруговых спаборніцтвах залік праводзіцца як паасобна па паасобным відам, так і агульны па ўсяму комплексу спартыўных спаборніцтваў, пры чым для мужчынскіх і жаночых калектываў паасобна.

На Ўсебеларускіх спаборніцтвах залік агульны для мужчын і жанчын як па паасобным відам спартыўных спаборніцтваў, так і агульны па ўсяму комплексу. У комплекс спаборніцтваў уваходзяць лыжы, падняцьце цяжасьцяў і барацьба.

Спаборніцтвы па канькам у залік комплекса не ўваходзяць.

**Праграма сьвята**. Раённыя спаборніцтвы праводзяцца па праграме рас-

працованай Акруговымі Саветамі адпаведна мясцовым умовам.

Акруговыя і Ўсебеларускае Сьвята праводзіцца па аднэй агульнай праграме, пры чым акрузе прадастаўляецца права дапоўніць яе па свайму погляду.

**Па лыжам.** Мужчыны—5 клм. у спартыўных касьцюмах.

Мужчыны—10 клм. ваеніз. у абмундыраваньні, у снараджэньні па перасечнай мясцовасьці са стральбой.

Мужчыны—20 клм. у спартыўных касьцюмах.

Жанчыны—3 клм.
„ „ 7 „

**Увага:** Для мужчын абавязкова ўдзел у двух дыстанцыях: 5 і 10 клм. ваеніз.; удзел у 20 кілёмэтравым прабеге для жадаючых, пры чым у комплекс уваходзяць першыя дзьве дыстанцыі. Для жанчын абедзьве дыстанцыі абавязковы.

**Лыжная эстафэта.** Мужчыны па 3 клм., жанчыны па аднаму.

**Па канькам.** Мужчыны на бегавых—500 мэтраў.

Мужчыны на бегавых—1500 мэтр.
„ „ „ 5000 „

На небегавых—500 мэтраў.
„ „ 1500 „

Жанчыны на небегавых—500 мэтр.
„ „ „ 1500 „

**Падняцьце цяжасьцяў.** Спаборніцтвы ў 5-ці клясычных рухах.

**Барацьба.** Француская.

Усе спаборніцтвы праводзяцца па афіцыяльным правілам ВСФК РСФСР.

**Мэдэчны кантроль.** Удзельнікі ўсіх спаборніцтваў дапускаюцца толькі па прадстаўленьні спраўкі аб прашэдшым мэдыцынскім кантролю.

На Ўсебеларускае Сьвята ўдзельнікі спаборніцтваў павінны прыбыць з запоўненай антрапамэтрычнай карткай.

**Судзейская калегія.** Старшыні судзейскіх калегій на акруговых і Ўсебеларускіх спаборніцтвах вызначаюцца з ліку сяброў Прэзыдыуму. Склад калегіі персанальна з ліку кваліфіцыраваных асоб. Для разьвязаньня прынцыповых пытаньняў ствараецца арбітражная камісія з прадстаўнікоў ведамств на акруговых спаборніцтвах і прадстаўнікоў акругоў на Ўсебеларускіх. Пытаньні тэхнічнага характару разьвязваюцца канчаткова судзейскай калегіяй і абжалаваньню не падлягаюць.

# Дзейнасьць Беларускага Чырвонага Крыжу ў дыяграмах







ЛІК ГУРТКОЎ ПЕРШАЙ ДАПАМОГІ
НА I КАСТРЫЧНІКА 1927 г.
1185
705
628
313
240
130
60
40
БАБРУЙСК.
МЕНСКАЯ


РОСТ БЮДЖЭТУ
Т-ВА ЧЫРВ. КРЫЖУ
71.213 руб.
100%
126840 р.
178%
152920 р.
265%
246.609 р.
316 %
КАСТРЫЧНІК
1924 г.
КАСТРЫЧНІК
1925 г.
КАСТРЫЧНІК
1926 г.
КАСТРЫЧНІК
1927 г.

# СВАЯКІ ЗАГІНУЎШЫХ У АМЭРЫЦЫ

## МОГУЦЬ АТРЫМАЦЬ ПРЭМІЮ

**Грошы можна сыскаць праз Цэнтральны Камітэт Беларускага Таварыства Чырвонага Крыжу. За кожнага загінуўшага выплачваецца ад 500 да 10 тысяч доляраў**

Да імпэрыялістычнае вайны з Беларусі выехала шмат беларусаў у Амэрыку на заработкі.

Шмат хто з іх пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі зьвярнуўся назад на Беларусь, частка яшчэ і цяпер жыве ў Амэрыцы, а частка з іх або загінула на вайне, або памерла ці была забіта ў часе работы.

Некаторыя беларусы страхавалі сваё жыцьцё. І вось пасьля сьмерці застрахаваных, калі ў іх ня было сваякоў у Амэрыцы, страхавую прэмію маюць права атрымаць іх сваякі.

Усю спр:ву па сысканьні страхавое прэміі з страхавых амэрыканскіх кампаній і перадачы сваяком узяў на сябе Цэнтральны Камітэт Беларускага Таварыства Чырвонага Крыжу.

Тыя грамадзяне, якія заявілі ў Чырвоны Крыж, што ў іх былі ў Амэрыцы сваякі і загінулі там, хутка атрымаюць страхавую прэмію: некаторыя па 500 доляраў, а некаторыя да 10 тысяч доляраў. Ужо для 11 грамадзян усе патрэбныя дакуманты афармлены і пер:сланы ў Нью-Ёрк; 22 запаўняюць анкеты, справа 11 грамадзян яшчэ высьвятляецца, а 6 грамадзян, якія жывуць у СССР, шукаюцца. Імёны іх мы друкуем сёньня.

Калі ў каго-небудзь загінуў сваяк у Амэрыцы, дык трэба паведаміць у ЦК Беларускага Таварыства Чырвонага Крыжу
(Менск, вул. Карла Маркса, д. № 3).

# СТРАХАВАЯ ПРЭМІЯ З АМЭРЫКІ

## ЗА ЗАГІНУЎШЫХ СВАЯКОЎ

### ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ

**Цэнтральны Камітэт Таварыства Чырвонага Крыжу шукае наступных грамадзян на атрыманьне страхавой прэміі з Амэрыкі за сваіх сваякоў.**

1. **КУШНЕР ПАТАП І ЮЛЯ**, зьяўляюцца насьледнікамі свайго сына Кузьмы Кушнера або Кушнан, забітага 26 красавіка 1926 году, б дучы на працы ў Інтэрборо Рапід Транзіт Ко. Нью-Ёрк.
2. **ПЛЯСУН (ПЛЯСУМ) ЯКАЎ**, зьяўляецца насьледнікам свайго сына Кірылы Плясум (Плясун), забітага ў час працы 14 сакав:ка 1927 г., будучы на службе ў Інтэрборо Рапід Транзіт Ко, Нью-Ёрк.
3. **КОЛАС МАР'Я** зьяўляецца насьледніцаю свайго бацькі Лары Колас, забітага ў час работы (час сьмерці і назва прадпрыемства не вядомы).
4. **ШАПІРА БЭРЭЛЬ**, (ён-жа Буршк),
5. **ШАПІРА РАХІЛЬ**, (яна-ж Буршк), насьледнікі пасьля памершай Хаі Буршк ці Буршчык.
6. **ЛЮБСКО МАР'Я** (Лубско), па мужу Фастовіч на атрыманьне часткі ўзнагароды за раненьне свайго мужа.

Просьба да ўсіх, хто ведае аб месцы знаходжаньня зазначных грамадзян, паведаміць іх адрас у Цэнтральны Камітэт Беларускага Таварыства Чырвонага Крыжу
*(Менск, вул. Карла Маркса, д. № 3).*

